17 лістапада 2017 | № 43 (557)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Шэсць Армагедонаў ад Бундэсвера**

Стар. 8

ISSN 2218-2144







4 **ДАДАТКОВЫ ВЫХОДНЫ**

Беларусь — адзіная з рэспублік былога Савецкага Саюза, дзе 7 лістапада засталося дзяржаўным святам і выхадным днём




5 **ПАГОНЯ НА КАПЭРТАХ І ХАБАРНІКІ, ЯКІЯ ЧАКАЮЦЬ ПУЦІНА**

Чарговы герой матэрыялу з серыі партрэтаў фігурантаў «Справы патрыётаў» — Цімур Пашкевіч, інжынер-будаўнік, бацька двух сыноў, аматар айкідо і знавец свайго радаводу

6–7 **«УНІВЕРСІТЭТ ПАВІНЕН ФАРМАВАЦЬ ЭЛІТУ ДЛЯ КРАІНЫ»**

Ці магчыма беларусізаваць вышэйшую школу? Якія перспектывы ў Нацыянальнага ўніверсітэта? Пра гэта разважае дэпутат, старшыня ТБМ Алена Анісім

10–11 **ГАЛОЎНЫ РУХАВІК СТАЛІНСКАЙ ЭКАНОМІКІ**

Прымусовая праца не толькі лічылася найбольш эфектыўнай формай перавыхавання, але і была значным складнікам савецкай эканомікі

# Паводле старых правілаў, але ў іншых умовах

## Мясцовыя выбары могуць непрыемна здзівіць уладу



Сяргей ПУЛЬША

Мы можам лічыць, што старт выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы ўжо дадзены. Аляксандр Лукашэнка на рабочай сустрэчы са старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай падтрымаў прапанову прызначыць выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў 28 склікання на 18 лютага 2018 года.

«Усё ж такі люты — больш спакойны месяц», — працытавала Лукашэнку яго прэс-служба.

Але, падаецца, што дата 18 лютага альбо ўжо была ўзгоднена загадзя, альбо «караля грае атачэнне», і сам Аляксандр Рыгоравіч нічога тут не вырашаў. Бо яшчэ напярэдадні Лідзія Міхайлаўна распавяла журналістам, што на наступны дзень пасля сустрэчы з гарантам запланавана першае пасяджэнне ЦВК па мясцовых выбарах. І больш за тое, — яна замовіла на 16 лістапада пад пастановы ЦВК з гэтага пасяджэння газетную плошчу ў выданні «СБ. Беларусь сегодня». І ўсё гэта — яшчэ да падпісання адпаведнага ўказу пра прызначэнне выбараў.

Цікава, што б яна з гэтым рабіла, каб б Лукашэнка раптам з датай 18 лютага не пагадзіўся? Ці такога ўжо не прадугледжваецца?

Мала хто сумняваецца ў тым, што мясцовыя выбары пройдуць «як заўсёды». У чарговы раз старшыня ЦВК уключыла свой любімы і апрацаваны дзясяцігоддзямі сцэнар, датычны шматлікіх рэкамендацый БДІПЧ АБСЕ па паляпшэнні айчыннага выбарчага заканадаўства і правапрымяняльнай практыкі. Маўляў, як бы ні хацелася замежнікам, зменаў не будзе, таму што пачалася перадвыбарчая кампанія, і коней на пераправе не мяняюць.

Нагадаем, што апошнія такія рэкамендацыі былі выдадзеныя Ярмошынай па выніках выбараў у Палату прадстаўнікоў, якія адбыліся 11 верасня 2016 года. Іх быў цэлы спіс — 32 пункты. Ярмошына зацягвала працэс як магла: казала пра распрацоўку адпаведнага законапраекта, падрыхтоўку нарады на ўзроўні кіраўніка дзяржавы… І, урэшце, дачакалася той самай пераправы з канямі.

Да таго ж, на сустрэчы з кіраўнічкай ЦВК Лукашэнка, як звычайна, паабяцаў, што правядзе кампанію «на годным узроўні». «Хаваць нічога не будзем. Хто гатовы ісці на выбары, хай ідзе. Усе ўзроўні ўлады будуць працаваць у тым кірунку, у якім Цэнтрвыбаркам акрэсліць, як гэта і было заўсёды», — сказаў ён.

Што такое «годны ўзровень» па-беларуску — мы ўсе ведаем. І не толькі ў дачыненні да выбараў.

Наўрад ці чымсьці здзівяць нас і апазіцыянеры. Прынамсі, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька ўжо заявіў пра супольную працу правацэнтрысцкай кааліцыі (АГП, Рух «За Свабоду» і аргкамітэт па стварэнні БХД), а таксама пра кансультацыі з іншымі структурамі — ад сацыял-дэмакратаў і «зялёных» да камуністаў. Паводле Лябедзькі, гэта зноў будуць не выбары, а «палітычная кампанія», на якой кандыдаты-спікеры распавядуць пра адсутнасць у краіне выбараў і данясуць да насельніцтва «праграму пазітыўных пераменаў».



Фота www.bdg.by

Гэтым разам нават не плануецца масавага вылучэння. На больш за 18 тысяч (!) дэпутацкіх месцаў «мы вылучым 50–60 чалавек», сказаў Лябедзька. Праўда, пакуль не зразумела, хто такія «мы»: толькі АГП альбо ўсе правацэнтрысты скопам. Калі ўсе разам, сітуацыя выглядае вельмі сумна.

Ідзе на выбары і БНФ, але таксама «каб данесці свае палітычныя погляды грамадзянам». «Гавары праўду» мае намер выставіць 150 кандыдатаў. А Беларускі нацыянальны кангрэс Някляева і Статкевіча замахнуўся на больш глабальны праект — датэрміновыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

Але гэтыя выбары ўсё ж будуць адметныя. Таму што сітуацыя ў Беларусі змянілася. І змянілася яна ці не кардынальна.

Нават на выбарах 2016 года ў грамадстве не існавала такой ступені незадаволенасці народа дзеяннямі ўлады. Народ выказаў яе напачатку года падчас пратэстаў супраць Дэкрэту №3. Калі ўлада лічыць, што той пратэст удалося згасіць — яна памыляецца. Пратэст проста загналі ўглыб, і з той глыбіні ён можа выплысць у любы момант.

У адсутнасці нармальнай сацыялогіі даводзіцца глядзець на зрэзы меркаванняў у інтэрнэце. І калі раней у адпаведных тэматычных суполках на адрас улады гучала хай жорсткая, але крытыка, дык зараз — абурэнне і абразы аж да нянавісці.

Падаецца, ніколі людзі не адчувалі сваё збяднене так, як зараз. Ці не штодзень чуваць пра тое, што на тым ці іншым прадпрыемстве працаўнікі пайшлі дамагацца больш годнага заробку. Не дадаў папулярнасці ўладзе і сюжэт з забойствам Коржыча ў Печах, тым больш, што пасля яго пачалі ўсплываць іншыя факты дзедаўшчыны. І асноўны рухавік выбараў — настаўнікі, з якіх зазвычай складаюцца ўчастковыя выбарчыя камісіі, — наўпрост адчулі на сабе не толькі жабрацкія заробкі, але і графік «пад Колю».

І гэтая нянавісць можа выліцца ў тое, чаго доўга чакалі дэмакраты, — у сумленны падлік галасоў. У тое, што раззлаваныя чальцы выбарчых камісій проста назло ўладзе сумленна падлічаць галасы і, што больш важна, раскажуць, хто колькі галасоў атрымаў. Зважаючы на тую ж «справу Коржыча», калі агалоска аднаго факта смерці прывяла да змены ўсяго кіраўніцтва вайсковай часткі — аж да сяржантаў і прапаршчыкаў.

Можа, і з краінай так атрымаецца? І ці здолеюць гэтым скарыстацца тыя, хто ідзе на выбары, каб данесці сваю праграму?

# Сёмы раз стартаваў фестываль мабільнага кіно

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У Мінску 14 лістапада адкрыўся сёмы фестываль мабільнага кіно velcom Smartfilm.**

Гэта азначае, што рэжысёры могуць дасылаць свае працы. А вось абіраць лепшыя карціны сёлета змогуць не толькі прафесійныя рэжысёры і кінакрытыкі, але і прадстаўнікі «народнага журы».

Праект Smartfilm ужо стаў міжнародным. У мінулым годзе фільмы, знятыя на смартфон, дасылалі на конкурс удзельнікі з 48 краін свету.

Юлія Дайнэка, начальнік упраўлення маркетынгу кампаніі velcom, прызнаецца, што яшчэ пяць гадоў таму яны лічылі фільмы, знятыя на смартфон, кіно для аматараў: «Дзякуючы правядзенню фестываляў усе гэтыя гады мы зразумелі, што смартфон — гэта тая прылада, з дапамогай якой можна зняць сапраўднае кіно! Аўтарскае кіно цікавае для ўсё большага кола гледачоў. І што істотна, адзін прадукт канкуруе з іншым».

Разынка фестывалю гэтага года заключаецца ў тым, што арганізатары конкурсу даюць поўную свабоду ўдзельнікам: рэжысёры цяпер не абмежаваныя ў жанрах. Існуюць толькі два абмежаванні: фільм мусіць быць не даўжэйшы за 10 хвілін, і ён павінен быць знятым смартфонам.

Кінааналітык Максім Жбанкоў угледзеў у гэтай свабодзе яшчэ больш цяжкую задачу для рэжысёраў: «Гэта толькі падаецца, што гуляць у кіно — лёгка. Паспрабуйце гуляць, калі ў вас няма анічога, акрамя таленту, акрамя асабістай энергіі і драйву. Я думаю, што да гульні без правіл трэба саспець. І да гэтага арганізатары фестывалю ішлі сем гадоў. Акрамя фестывалю мабільным кіно ў нашай краіне не займаецца, бадай, ніхто. З кожным фестывалем з'яўлюцца новыя аўтары, якіх не сорамна любіць».

Прыём заявак на фестываль ад канкурсантаў пачаўся 14 лістапада і скончыцца 31 снежня. Як і ў мінулым годзе, фестываль адбываецца пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Вырашаць лёс пераможцаў будзе дырэктар праграмы фестывалю кіно «Лістапад» Ігар Сукманаў, кінааналітык і культуролаг Максім Жбанкоў, кіназнаўца і кінакрытык Антон Сідарэнка, рэжысёр Дзмітрый Алейнікаў, галоўны рэдактар Afisha.Tut.by Ганна Яфрэменка і прадзюсар Леанід Каліценя.

Прадстаўнікі журы адзначылі конкурс як добрую стартап-пляцоўку для тых, хто хоча ўвайсці ў кіно. Дзякуючы такому фестывалю, лічаць эксперты, беларускі кінематограф зрушыцца. Здымаць на смартфон можа як школьнік, так і пенсіянер, а якасць кіно і цікавасць у гледачоў ніжэйшай ад гэтага не становіцца.

Пры тым, улічваючы той факт, што праект стаў міжнародным, беларуская мова і нацыянальныя матывы не будуць адыгрываць ніякай ролі ў абранні пераможцаў. «Мова — гэта не знак якасці, не знак перамогі. Мы хочам, каб беларускія аўтары перамагалі не таму, што яны беларускія, а таму, што яны лепшыя», — падзяліўся Максім Жбанкоў.

На што сёлета будзе звяртаць увагу журы падчас ацэньвання фільмаў, знятых на смартфон?

Кінакрытык Ганна Яфрэменка адзначыла, што галоўнае — гэта аўтарская ідэя: «Я буду рада, калі з карцін змагу счытваць арыгінальную аўтарскую думку».

Яшчэ адно новаўвядзенне фестывалю — спецыяльна зацверджаны прыз народнага журы. Гледачы змогуць галасаваць на сайце фестывалю smartfilm.by, пасля чаго будзе сфарміраваны шорт-ліст народнага журы. 23 студзеня 2018 года тыя працы, якія ўвайшлі ў шорт-ліст, будуць паказаныя на вялікім экране ў velcom cinema. А народнае журы пад кіраўніцтвам Тараса Тарналіцкага вызначыць пераможцу фестывалю.

# Польшча хоча правесці Беларусь крыху далей

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**«Мы гатовыя падзяліцца тэхналогіямі, гатовыя да інвестыцый. Польшча хацела б правесці Беларусь крыху далей», — заявіў стваральнік і галоўны прамоўтар праграмы «Смак Еўропы, якасць і традыцыі» на прэс-канферэнцыі з нагоды трэцяга этапу праграмы.**

«Мы задаволеныя ростам таваразвароту паміж Польшчай і Беларуссю, але ў нас ёсць яшчэ шмат магчымасцяў для актывізацыі нашага супрацоўніцтва. Польшча па выніках 8 месяцаў гэтага года з'яўляецца трэцім гандлёвым партнёрам Беларусі і чацвёртым замежным інвестарам (для параўнання: у 2016 годзе па інвестыцыях у Беларусь Польшча знаходзілася на 10-м месцы). Але мы па-ранейшаму лічым, што патэнцыял супрацоўніцтва нашмат большы», — сказаў на адкрыцці прэс-канферэнцыі амбасадар Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік.

У прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала прэзентацыі праграмы сярод прадстаўнікоў бізнесу прынялі ўдзел, акрамя амбасадара, дзяржсакратар Міністэрства сельскай гаспадаркі і развіцця вёскі Польшчы Яцэк Багуцкі, намеснік гендырэктара Цэнтра падтрымкі сельскай гаспадаркі Лукаш Халубоўскі, прэзідэнт Нацыянальнай палаты Анджэй Арэндарскі, прэзідэнт Праўлення Польскай гаспадарчай Палаты Цэнтр спрыяння Бажэна Врублеўска, а таксама кіраўнік Асацыяцыі мяснікоў і вытворцаў кілбасных вырабаў Пётр Земан.

Вялікія спадзяванні на больш інтэнсіўнае супрацоўніцтва выказаў дзяржсакратар Міністэрства сельскай гаспадаркі Яцэк Багуцкі. «Паміж Польшчай і Беларуссю ідзе інтэнсіўны дыялог, і я спадзяюся, што гэта супрацоўніцтва прынясе плён у выглядзе адмены гандлёвых абмежаванняў», — сказаў прадстаўнік міністэрства. Ён таксама выказаў спадзяванні, што супрацоўніцтва з Беларуссю дасць магчымасць пашырыць таваразварот не толькі паміж Польшчай і ЕС, але і паміж ЕС і ЕАЭС.

Спадзяванні на падпісанне шматлікіх пагадненняў, якія пашыраць супрацоўніцтва нашых краін у сельскай гаспадарцы, даюць прадстаўніку польскага міністэрства і перамовы з міністэрствам беларускім. Ці дасць гэта плён? Магчыма, мы зможам гэта ўбачыць ужо ў наступным годзе. А што тычыцца года мінулага, то сума польскага экспарту ў Беларусь склала 234 мільёны еўра, прыкладна палова з гэтага — садавіна і гародніна, на другім месцы — збожжа, на трэцім — малочная прадукцыя. Агулам жа польскі экспарт харчовых тавараў у гэтым годзе, паводле прагнозаў, перавысіць 25 мільярдаў еўра. Польшча пастаўляе харчы ў 70 краінаў свету. Асноўныя спажыўцы ў ЕС — Германія, Чэхія, Вялікабрытанія, Італія.

Што яшчэ, акрамя сваіх прадуктаў, прапануюць польскія прадстаўнікі? Найперш, гэта дапамога ў тэхналогіях і абсталяванні. Польскія бізнесоўцы неўзабаве наведаюць беларускія мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы, каб вывучыць магчымасці інвеставання ў сумесныя прадпрыемствы, паведаміў Пётр Земан. Польшча прапануе ствараць сумесныя прадпрыемствы, разам з беларусамі выпрабляць прадукцыю і рээкспартаваць у трэція краіны. Для гэтага ў палякаў ёсць перадавыя тэхналогіі, капітал і досвед, якімі яны гатовы падзяліцца з беларусамі.

Акрамя таго, палякі гатовыя прадставіць стыпендыі для навучання беларускім спецыялістам.

«Польскім інвестарам значна лягчэй прымаць рашэнне аб інвестыцыях у Беларусь, калі ў іх ужо ёсць навучаныя, давераныя работнікі з вопытам, якім можна даручыць сумесную справу», — адзначыў намеснік гендырэктара Дзяржаўнага цэнтра падтрымкі сельскай гаспадаркі Польшчы Лукаш Халубоўскі.

Паводле яго словаў, пытанне аб выдзяленні стыпендый беларускім спецыялістам для навучання і працоўнай практыкі ў Польшчы было разгледжана на сустрэчы польскай дэлегацыі, якая ўдзельнічае ў працы міжнароднай выставы «Прадэкспа–2017», з прадстаўнікамі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі.

«Польскія фірмы гатовыя супрацоўнічаць з Беларуссю не толькі па тавараабмене, але і ў плане каапераці. Для гэтага няма ніякіх перашкодаў, мы даўнія суседзі і маем даўнюю гісторыю паспяховага супрацоўніцтва», — адзначыў Халубоўскі.

«Польская вёска перажыла сур'ёзныя змены за апошнія 25 гадоў, чаго мы можам пажадаць і Беларусі. Мы ўпэўненыя, што захавалі лепшае — польскі смак, традыцыі і якасць, а дзякуючы сяброўству ў Еўрапейскім саюзе, мы атрымалі доступ да найбольш эфектыўных і сучасных тэхналогій, магчымасці дадатковага фінансавання, а таксама навучыліся прасоўваць сваю прадукцыю на самыя патрабавальныя рынкі, такія, як Японія, Кітай, іншыя азіяцкія краіны, ЗША, Канада, Блізкі Усход. Мы гатовыя падзяліцца досведам з беларускімі партнёрамі, яшчэ больш паглыбіць супрацоўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі. І мы ўпэўненыя, што сённяшняя прэзентацыя праграмы стане практычным дапаўненнем польскай прапановы менавіта ў гэтай сферы», — падкрэсліў амбасадар Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік.

Пытанне толькі ў тым, ці здолее беларуская вёска пайсці шляхам польскай?

# Чыноўнікі і міліцыя зачынілі легендарную галерэю «Крыга» ў Гродне

Алесь КІРКЕВІЧ

**Супрацоўнікі ЖРЭУ, ЖЭСа ды МУС без папярэджанняў паставілі ўладальніка мастацкай галерэі перад фактам: дамова аб арэндзе скасоўваецца нібыта праз незаконную перапланіроўку. Памяшканне мае быць вызваленае, а «Крыга» спыняе сваё існаванне.**

Прыкладна а 10-й гадзіне ранку 14 лістапада Юрасю Мацко, вядомаму кавалю, мастаку і ўладальніку галерэі, патэлефанавалі чыноўнікі ды папярэдзілі пра свой хуткі візіт. Ужо а другой гадзіне ў «Крызе» была цэлая дэлегацыя з супрацоўнікаў ЖРЭУ ды ЖЭСу ў суправаджэнні міліцыі. Мацко паведамілі пра скасаванне арэнды, фактычна высяленне галерэі.

Што стала падставай? Фармальна, чыноўнікі дачапіліся да факту нібыта незаконнай перапланіроўкі, праведзенай спадаром Юрасём. Але тут ёсць некалькі нестыковак:

«Па-першае, перапланіроўка была касметычнай і не закранала ані будынка, ані суседзяў, — тлумачыць Мацко. — Па-другое, па гэтым факце ўжо быў суд і штраф, які я аплаціў ды лічыў канфлікт вычарпаным. Па-трэцяе, мне меліся паведаміць пра неабходнасць выпраўлення маёй «перапланіроўкі», і толькі ў выпадку, калі я яе не зраблю, — рухаць справу далей. Такога не было».

Больш за тое, ніякага папярэджання пра такі радыкальны крок не было. Чыноўнікі, праўда, спасылаліся на нейкі афіцыйны ліст, высланы Мацко яшчэ ў мінулым месяцы, але, паводле спадара Юрася, яму нічога не прыходзіла. Дый чыноўнікі ніякага цэтліка з пошты аб высылцы ліста прад'явіць не змаглі.

«Уся гэтая гісторыя з перапланіроўкай — толькі зачэпка, — лічыць Мацко. — Насамрэч, магчыма, памяшканне хочуць прадаць ці здаць некаму на іншых умовах. Магчыма, камусьці муляе вока выстаўчая дзейнасць альбо праца «Цэнтру гарадскога жыцця», які месціцца тут жа».

Зрэшты, «Цэнтр гарадскога жыцця» не пацярпеў — да яго плошчаў прэтэнзіяў няма. Хоць акурат да яго актыўнасці ва ўладаў маглі быць прэтэнзіі. Нядаўна тут праходзіла прэзентацыя «Спісу Івашына», прысвечанага беларускім сілавікам з «расійскімі сувязямі». Тут жа праходзіла лекцыя расійскага філосафа-анархіста Рабава, якая скончылася для слухачоў у пастарунку міліцыі.

Чым завершыцца гісторыя з «Крыгай», пакуль не вядома: Юрась Мацко не каментуе магчымасцяў абскарджваць рашэнне гарадскіх уладаў. Разам з тым, у інтэрнэце ўжо пішуць пра «наступ на беларускія пляцоўкі па ўсёй краіне», маючы на ўвазе таксама нядаўнюю гісторыю з закрыццём «ЦЭХу» ў Мінску.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хопіць карміць Каўказ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Некалі папулярны лозунг расійскай апазіцыі зараз як ніколі прыдатны для Беларусі. А ўсё таму, што ў нас у чарговы раз абвастрылася сітуацыя з Рассельгаснаглядам.**

Я, праўда, дагэтуль не разумею, на чыю карысць грае гэтае моцнае расійскае ведамства. Падаецца, іх мэта-максімум — зрынуць Пуціна праз «народны бунт, бессэнсоўны і бязлітасны». Калі народу проста есці няма чаго будзе.

З 10 лістапада Рассельгаснагляд забараніў сямі беларускім кампаніям увозіць у Расію плодаагароднінную прадукцыю. Пад забарону патрапілі таматы СУП «Азотсэрвіс», яблыкі СВК імя У.І. Крамко, грыбы фермерскай гаспадаркі «Агра-прадукт», таматы і яблыкі фермерскай гаспадаркі «Гедэон», грыбы вытворчасці ІП Мартыненка Ю.А. і «Брэнд Капрыз», а таксама яблыкі сельскагаспадарчага філіяла «Клецкі».

Прычым, забаранілі ўвозіць прадукцыю гэтых прадпрыемстваў не таму, што яна дрэнная. А таму, што на гэтых прадпрыемствах у іх сарваліся праверкі. Як паведамлялася раней, інспектары Рассельгаснагляду наведалі больш за 30 прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць вытворчасць, захоўванне і рэалізацыю таматаў, грыбоў і яблыкаў у Беларусі. На сем прадпрыемстваў іх папросту не пусцілі — бо інспекцыі гэтых гаспадарак не былі ўзгодненыя, а мясцовыя ўлады не апавешчаны пра гэта.

Сапраўды, дапусцім, да вас на працу з'яўляецца невядома хто, пачынае замінаць вам працаваць, глядзіць на ўсю вытворчасць, нешта правярае, не маючы на гэта адпаведных паўнамоцтваў... Як любы нармальны чалавек паставіцца да такога візіцёра? Выставіць за дзверы. Што і было зроблена ў дачыненні да чыноўнікаў Рассельгаснагляду. А яны пакрыўдзіліся.

Вось мне цікава, чаму беларускія фітасанітарныя ўрачы не даглядаюць у адказ прадукцыю расійскіх прадпрыемстваў? Чаму мы не ведаем, напрыклад, пра інспектараў з Беларусі на вытворчасці хімічнага печыва «Яшкіна» альбо расійскіх кілбас, якіх нават каты не ядуць? Цікава, як бы адрэагавалі расійскія бізнесоўцы на беларускую праверку іх прадпрыемстваў? Ды не пусцілі б нават на прыступкі!

Альбо яшчэ адзін прыклад. Прадстаўнікі Рассельгаснагляду наведалі Сан-Марына і Македонію, каб высветліць сітуацыю з «бялкова-тлушчавым паўцвёрдым прадуктам» (чытай, сырам). Паводле дакументаў, яго везлі ў РФ праз Беларусь з Ірана, Македоніі, Сан-Марына і Кітая. Расійскае ведамства атрымала з гэтых краін інфармацыю, што падобная прадукцыя там не выраблялася і ў Беларусь не пастаўлялася.

На гэтай падставе прадстаўнікі ведамства зрабілі выснову: з Беларусі ў Расію пастаўляецца прадукцыя з фальшывымі дакументамі.

Выбачайце, а пры чым тут Беларусь? Пагадзіцеся, «прадукцыя пастаўляецца з Беларусі», і «прадукцыя ідзе праз Беларусь» — гэта вельмі розныя рэчы. Мы не адказваем (прынамсі, не павінны) за транзітныя пастаўкі праз нас у Расію. Але Рассельгаснагляд, замест таго, каб разабрацца са сваімі экспарцёрамі, усё роўна робіць ворага з нас.

Самае прыкрае, што гэта адбываецца напярэдадні каляндных святаў. Ну, не будзе на сталах у масквічоў, пермякоў і чалябінцаў беларускіх грыбоў і сыроў — хто ад гэтага выйграе? Беларусь? Расія? Не. Можа быць, асобныя чыноўнікі, якія будуць уцюхваць рускім паўцвёрды бялкова-тлушчавы прадукт. Людзі патруцяцца, а вінаваціць у гэтым будуць уладу і, канешне, Пуціна.

> **11 % склаў прырост экспарту харчоў сёлета. Пры гэтым экспарт у Расію знізіўся на 3–6%. Сярод новых пакупнікоў беларускага харчавання — Аўстрыя, Фінляндыя, Панама, Егіпет і Манголія**

Так што хопіць нам глядзець у рот Рассельгаснагляду і карміць Расію. Не падабаецца — не ешце.

І няма чаго енчыць пра тое, што «нашая прадукцыя, акрамя Расіі, нікому не патрэбная», і «што мы будзем рабіць, калі Расія не будзе яе набываць». Хопіць ужо гэтага комплексу «малодшага брата». Першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Марыніч на тыдні паведаміў, што сёлета Беларусь павялічыла экспарт харчавання на 11%. Пры гэтым экспарт у Расію знізіўся на 3–6%. Сярод новых пакупнікоў беларускага харчавання — Аўстрыя, Фінляндыя, Панама, Егіпет і Манголія.

З Егіптам і Манголіяй — Бог з імі, але калі беларускія прадукты набываюць Аўстрыя і Фінляндыя, гэта пра нешта ж кажа? Напрыклад, пра высокую якасць.

Да таго ж, не трэба зацыклівацца выключна на харчах. Магчыма, праз пяцігодку наш Барысаў пакладзе ў труну ўвесь расійскі аўтапрам. Мы, канешне, здзекаваліся з праекту зборкі ў Беларусі кітайскіх Geely. А можа стацца, што здзекаваліся дарма, і давядзецца прасіць прабачэння.

Кітайская кампанія Geely абвясціла пра тое, што выкупіць увесь бізнэс і ўсе активы амерыканскага стартапу Terrafugia. Сума ўгоды не выдаецца, паведамляе БелТА.

Terrafugia распрацоўвае канцэпт лётаючых аўтамабіляў. Geely паабяцала за кошт капіталаўкладанняў ператварыць такія аўтамабілі з фантастыкі ў рэальнасць. Прычым, Terrafugia паставіла задачу вывесці першы лётаючы аўтамабіль — не ў праект, не ў пілотны экземпляр, а на рынак — ужо ў 2019 годзе. А ў 2023-м запусціць у масавую вытворчасць лятаючы аўтамабіль з вертыкальным узлётам і пасадкай.

Цікава, ці наладзіцца зборка такіх машын на «БелДжы»?

І гэта не ўсё, чым мы можам здзівіць свет. Як паведаміў дырэктар Фізіка-тэхнічнага інстытута НАН Беларусі Віталь Залескі, беларускія навукоўцы распрацавалі тэхналогію для ўмацавання карпусоў мабільных тэлефонаў. «Наш інстытут валодае цэлым шэрагам тэхналогій нанясення пакрыццяў — гэта так званая інжынерыя паверхні. Напрыклад, тэхналогія высакавольтнага аксідавання дазваляе наносіць умацоўваючае пакрыццё на корпусы мабільных тэлефонаў альбо радыёэлектронных прыладаў, якія патрабуюць спецыяльнай абароны», — запэвў Залескі.

Зноў жа, гэта будзе вельмі карысна ўсім: ад Apple з іх айфонамі і да тых жа кітайцаў. Бо ў іх краіне якраз і робіцца ільвіная доля самых розных мабільнікаў.

Такім чынам, нам трэба ўкладацца ў інавацыі. Менш «карміць Каўказ», тым больш, што гэтага, як высвятляецца, папросту не цэняць. І больш думаць пра будучыню і перспектыву. І пазбаўляцца «аковаў мінулага» ды комплексаў «малодшага брата».

З гэтай мэтай на Лідчыне грамадскія актывісты абвясцілі конкурс на лепшы вянок да помніка Леніну. 7 лістапада актывіст з Бярозаўкі (Лідскі раён) Вітольд Ашурок прынёс да Леніна вянок з чарапамі і надпісам «Гары, кат, у пекле!». Лідскія міліцыянты не заўважылі ў яго дзеяннях правапарушэння. Зараз праз інтэрнэт ладзіцца конкурс на лепшы вянок камуністычным дзеячам мінулага. «Прызы арганізуем!» — абяцаюць актывісты.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Аляксандр Казулін

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі і экс-старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) дыстанцыяваўся ад палітыкі, але ўсё роўна патрапіў у палітычны скандал.**

Спачатку Аляксандр Абрамовіч заявіў, што Казулін нібыта згодны ўзначаліць партыю ў выпадку, калі ў яго папрасяць прабачэнне «за выключэнне з кіраўніцтва ў той момант, калі ён з'яўляўся палітвязнем і сядзеў у турме». А потым дзеючы старшыня партыі Ірына Вештард выказала нязгоду з прысваеннем Казуліну звання Ганаровага старшыні партыі, бо ў статуце БСДП (Грамада) такая пасада не прапісаная.

Казулін кажа, што ўсяго толькі пагадзіўся дапамагчы былым аднапартыйцам правесці партыйны аўдыт. «Па-чалавечы пагадзіўся дапамагчы людзям, бо калі ўбачыў, што адбываецца ў партыі, дык гэта проста бруд. Мне стала па-чалавечы шкада людзей, якія вераць у нейкія ідэалы і за нешта змагаюцца. Бо група людзей уладу ў партыі ў свае рукі захапіла і праце фактычна так, як і ўлада ў нашай краіне: нікога ні да чаго не дапускаюць, ніякай дэмакратыі, выключаюць з партыі ўсіх, хто з гэтым не згодны. А калі кіраўніцтва партыі будзе адмаўляцца праводзіць гэты аўдыт, то стане відавочна: яны так моцна загразлі ў гэтым, што ўжо баяцца простых дэмакратычных нормаў, якія павінны існаваць», — паведаміў Казулін.

## Алена Анісім



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў і старшыня Таварыства беларускай мовы трапіла на прыём да кіраўніцы прэзідэнцкай адміністрацыі Наталлі Качанавай.**

Паводле Анісім, размова ішла пра сучасны стан і перспектывы Полацку. «Я казала, што Полацк заслугоўвае таго, каб ён атрымаў спецыяльны статус, каб ён развіваўся. Бо яго месца ў дзяржаўнасці Беларусі, у яе гісторыі незаслужана адсунутае. Мы сышліся з Наталляй Іванаўнай у тым, што трэба шанаваць сваю гісторыю. І яна, і я прыводзілі прыклады, як у розных краінах шануецца літаральна кожны гістарычны камень. А Полацк, Полацкая зямля — яны пранізаныя беларускім духам. Там проста ўсё гаворыць пра беларускую дзяржаўнасць», — гаворыць Алена Анісім.

Дэпутатка падкрэслівала, што для істотных зрухаў гораду неабходна надаць адпаведны статус і падрыхтаваць стратэгічны план яго развіцця: «Каб кожны чалавек: і грамадзянін Беларусі, і любы турыст — былі ў захапленні».

Алена Анісім сказала, што рэакцыя Качанавай была станоўчая, і цяпер трэба стварыць групу людзей, якая разам з мясцовымі ўладамі зоймецца падрыхтоўкай такога плану.



## Сяргей Далідовіч

**Знакаміты беларускі лыжнік атрымае чарговую Алімпійскую бронзу за Алімпіяду ў Сочы.**

У лыжным марафоне ён прыйшоў да фінішу пятым. Але пасля працяглых праверак два расійскія спартоўцы былі дыскваліфікаваны за допінг. Такім чынам Далідовіч і стаў бронзавым прызёрам — праз тры гады пасля падзеі.

Па словах Далідовіча, прызавых за гэты медаль (50 тысяч долараў) ён не атрымае. Што будзе рабіць з узнагародай, Сяргей пакуль і сам не ведае: «Зараз гэта ўсё віртуальна, пакуль медаля няма, дык што казаць пра яго. Вось калі ўручаць, тады і буду думаць».

Цяпер Сяргей Далідовіч знаходзіцца ў Фінляндыі, дзе бегае на стартах ад Міжнароднай лыжнай федэрацыі: «Гэты і наступны збор я праводжу як спарынг-партнёр Юрыя Астапенкі, у якога Алімпійская стыпендыя. Тут я знаходжуся за грошы МАК».

Пры гэтым Сяргей дагэтуль нават не ў нацыянальнай камандзе. Па словах лыжніка, савет трэнераў прагаласаваў супраць яго вяртання ў яе: «Большасць трэнераў, чатыры з сямі, прагаласавалі супраць», — тлумачыць абставіны Далідовіч.

Нагадаем, што ў жніўні ён абвясціў збор сродкаў на свой удзел у Алімпійскіх гульнях у Пхёнчхане. Яму трэба было сабраць 30 тысяч рублёў, і ён здолеў гэта зрабіць за два тыдні, дзякуючы спонсару, імя якога не называецца. Той пералічыў Далідовічу 24 тысячы рублёў.

а | Азбука паліталогіі

# Дадатковы выходны

**Паводле прызнання адзінага палітыка, савецкія прынцыпы ляглі ў аснову патэнцыялу беларускай дзяржавы.**



Сяргей НІКАЛЮК

Дадатковым выходным днём — вось, бадай, і ўсё, чым запомніўся беларусам 100-гадовы юбілей Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але круглая дата тут не пры чым. Беларусь — адзіная з рэспублік былога Савецкага Саюза, дзе 7 лістапада засталося дзяржаўным святам і выходным днём. Дробязь, але прыемна.

Згодна з традыцыяй, адзіны палітык (АП) павіншаваў «дарагіх суайчыннікаў» са знамянальнай датай. Сціласць — сястра таленту, а таленту народнаму самародку не займаць, таму яму хапіла 107 словаў.

У сваім аналізе я абмяжуюся трыма абзацамі:

«У сусветнай гісторыі ёсць вехі і падзеі, якія ўплываюць на лёсы народаў, прадвызначаючы іх далейшае развіццё»; «Кастрычнік 1917 года азнаменаваны з'яўленнем на палітычнай карце краіны з прынцыпова новым укладам і абвяшчэннем правa нацый на самавызначэнне»; «Сфармаваныя ў перыяд Савецкага Саюза сацыяльна-эканамічныя прынцыпы пакладзеныя ў аснову развіцця прамысловага, навуковага, сельскагаспадарчага і сацыяльнага патэнцыялу сучаснай беларускай дзяржавы».

## Без ацэнак

Практычна ўсе даследчыкі, незалежна ад іх палітычнай арыентацыі, згодныя з тым, што Кастрычнік паўплываў на лёсы народаў. Як тут ні прыгадаць раман Джона Рыда «Дзесяць дзён, якія ўзрушылі свет». Але ці зрабіўся ад гэтага ўзрушаны свет лепшым? Вось у чым пытанне.

Год таму ў сваім віншаванні АП пералічыў цэлы букет дасягненняў савецкай эпохі. Для гэтага яму спатрэбіліся 64 словы (50% тэксту), пасля чаго цалкам гарманічна выглядала заключная прапанова: «З намі бясцэнны вопыт папярэдніх пакаленняў, а значыць, нам многае па сілах».

Віншаванне ў сувязі са 100-гадовым юбілеем ацэнак не ўтрымлівае. Ні пазітыўных, ні негатыўных. Чаму? Таму што, тлумачыць палітолаг Таццяна Станавая, «галоўны сэнс цяперашніх мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю рэвалюцыі, з пункту гледжання схаваных гістарычных комплексаў цяперашняй улады — гэта не дазволіць ні грамадству, ні якім-небудзь палітычным сілам выкарыстоўваць рэвалюцыю для каштоўнаснай мабілізацыі...».

«Дзяржава для народа», заклапочаная праблемай уласнага выжывання, не зацікаўленая ў з'яўленні пазітыўных арыенціраў, здольных кансалідаваць (мабілізаваць) насельніцтва, бо ва ўмовах эканамічнага крызісу любая кансалідацыя апынецца апазіцыйнай у адносінах да рэжыму.

У якасці прыкладу дастаткова прыгадаць актыўнасць інтэрнэт-супольнасці ў сувязі з гібеллю салдата Аляксандра Коржыча ў 72-й «вучэбцы» ў Печах. Аператыўнае падключэнне АП да канфлікту грамадскай думкі з Міністэрствам абароны фактычна на баку грамадскай думкі прадэманстравала, што ён не страціў яшчэ здольнасць у крытычных сітуацыях «ісці ад жыцця». Да ахвяры значнай фігуры (міністра абароны) справа, зразумела, не дайшла, але і ахвяраваннем пешак АП на гэты раз не абмежаваўся.

## Адкрыццё ад Макея

Без Кастрычніка не было б сучаснай беларускай дзяржавы, якая прэтэндуе, на думку АП, на званне «полюса стабільнасці» ў Еўрапейскім рэгіёне. Аднак імкненне выдаваць жаданае за сапраўднае ўласціва не толькі палітыкам. Яно шырока распаўсюджанае і на побытавым узроўні.

Бальшавікі абвясцілі права нацый на самавызначэнне. Але для таго, каб ім скарыстацца, трэба было... быць нацыяй. А, як паказалі наступныя падзеі, на момант распаду Расійскай імперыі ў сваім развіцці на гэты ўзровень у «турме народаў» выйшлі толькі палякі, фіны і прыбалты, якія здолелі адстаяць сваю незалежнасць у барацьбе з будаўнікамі «новага ўкладу».

Аднак вернемся ў сённяшні дзень. «Калі браць выключна палітычнае вымярэнне, — тлумачыць палітолаг Уладзімір Пастухоў, — дык мэтай рускай рэвалюцыі было і застаецца пераадоленне рускага самадзяржаўя і стварэнне рускай версіі еўрапейскай нацыянальнай дзяржавы. Гэтая місія і зараз застаецца нявыкананай, і таму рэвалюцыя працягваецца».

А ў Беларусі «гэтая місія выканана»? Наколькі тое, што мы пабудавалі, адпавядае нормам еўрапейскай нацыянальнай дзяржавы? Каб не навязваць чытачам сваё азбукавае меркаванне, звярнуся па дапамогу да міністра замежных спраў Уладзіміра Макея. «Менталітэт беларускіх грамадзян моцна адрозніваецца ад менталітэту еўрапейцаў», — заявіў міністр у кастрычніку карэспандэнту брытанскай «Financial Times».

**КОЛЬКАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ У ГАЗЕЦЕ «СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ», ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМ «РАЗНЯВОЛЕННЕ ДЗЕЛАВОЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ»**

| 2017* | 2016 | 2015 | 2014 | 2013 | 2012 | 2011 | 2010 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 46 | 14 | – | – | 4 | – | 4 | 3 |

* З 1 студзеня па 8 лістапада




**Але якія б змены ні адбываліся ў публічнай рыторыцы за пяць няпоўных «тэрмінаў» АП, нязменным застаецца непадкантрольнасць улады грамадству. І ў гэтым сэнсе нічога з часоў Савецкага Саюза не змянілася**

Брава! За ўсіх беларусаў не скажу, але менталітэт так званай «большасці», што рэгулярна галасуе на прэзідэнцкіх выбарах за АП, з менталітэтам еўрапейцаў, безумоўна, мае мала агульнага.

На думку Пастухова, галоўнае ў бальшавізме — гэта «вера ў творчы патэнцыял гвалту, у тое, што вінтоўка спараджае не толькі ўладу, але і шчасце. Зваротным бокам гэтай веры з'яўляецца глыбокая пагарда ўсім прававаым, і перш за ўсё — правам уласнасці. У гэтым сэнсе руская культура з'яўляецца дысідэнтам у сям'і еўрапейскіх культур».

Зноў жа не скажу за ўсіх суайчыннікаў, але пра дысідэнцтва культуры беларускай «большасці» ў Еўропе і распавядаў Макей у сваім апошнім інтэрв'ю, і распавядаў пераканаўча.

## Дынаміка фразеалагізму

Пры Мікалаі II пераважаў празаходні падыход да эканомікі, і, нягледзячы на поспехі, што фіксавала статыстыка, усё скончылася рэвалюцыяй. Новы ўклад, пра які АП казаў у віншаванні з нагоды юбілею Кастрычніка, адкінуў краіну ў мінулае, як мінімум на 50 гадоў — у дарэформенныя часы з прыгонным правам у вёсцы, татальным адміністрацыйным кантролем і саслоўным грамадствам. Толькі месца дваран у дзяржаве рабочых і сялян заняла наменклатура.

Цаной шматмільённых ахвяраў новы ўклад забяспечыў індустрыялізацыю, аднак постындустрыяльная эканоміка апынулася камунізму не па зубах, што і стала адной з галоўных прычын «найвялікшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя».

Якую выснову з яе зрабіў архітэктар «беларускай мадэлі»? Яна зафіксаваная ў пачатку артыкула: «Сфармаваныя ў перыяд Савецкага Саюза сацыяльна-эканамічныя прынцыпы пакладзеныя ў аснову развіцця прамысловага, навуковага, сельскагаспадарчага і сацыяльнага патэнцыялу сучаснай беларускай дзяржавы». Такім чынам, на нашых вачах разгортваецца другая спроба на савецкім укладзе паехаць у постындустрыяльны свет.

Зразумела, «беларуская мадэль» не з'яўляецца поўным клонам мадэлі савецкай. Сам факт, што аўтар «Азбукі паліталогіі» на працягу сямі гадоў у НЧ публікуе свае опусы, гэту выснову пацвярджае.

Калі ў Савецкім Саюзе праява асабістай ініцыятывы ў эканоміцы была крымінальна караная, дык сёння, фармальна, яна вітаецца. Больш за тое, у сувязі са складанасцямі па «раздачы хлеба», з якімі сутыкнулася «беларуская мадэль», рэзка вырас попыт на «разняволенне дзелавой ініцыятывы», што і зафіксавала газета «Советская Белоруссия» (глядзі табліцу).

## Ад стымулявання да разнявалення

Цяперашняя спроба разняволіць дзелавую ініцыятыву — не першая. Дапытлівым чытачам нагадаем пра Дырэктыву №4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь», што была прынятая пад бой курантаў у 2010 годзе.

Слабы водгалас Дырэктывы №4 у табліцы звязаны з тым, што ў 2010 годзе модна было разважаць пра стымуляванне дзелавой актыўнасці (18 артыкулаў у «СБ» у 2011 годзе), а не пра разняволенне дзелавой ініцыятывы. Наколькі важная падобная перамена — меркаваць чытачам.

Але якія б змены ні адбываліся ў публічнай рыторыцы за пяць няпоўных «тэрмінаў» АП, нязменным застаецца непадкантрольнасць улады грамадству. І ў гэтым сэнсе нічога з часоў Савецкага Саюза і Расійскай імперыі не змянілася.

Зноў вернемся да сведчанняў Макея: «Мы верым, што сацыяльна-эканамічныя правы маюць большае значэнне для асобнага чалавека, чым палітычныя. Што я маю на ўвазе? Нас вучылі, што права на працу, адукацыю, жыццё і гэтак далей важней, чым права на свабоду выказвання меркаванняў ці нешта падобнае».

І зноў траплянне ў «яблычак» з пункту гледжання беларускай «большасці». Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што УЛАДА ёсць вытворная ад уяўленняў грамадства (яго «большасці») пра яе. Палітычны рэжым Беларусі пераканаўча ілюструе дадзеную азбукавую ісціну.

***

Сучасную фазу развіцця Беларусі можна характарызаваць як рэстаўрацыю посткамунізму, што і пацвярджае віншаванне АП. Калі Савецкі Саюз будаваў сацыялістычную дэмакратыю, і казаў пра гэта адкрыта, то Беларусь, працягваючы савецкую традыцыю, спрабуе імітаваць дэмакратыю еўрапейскую. Таму задачы перад краінай сёння стаяць тыя ж, што і на мяжы 80–90-х гадоў мінулага стагоддзя.

# Пагоня на капэртах і хабарнікі, якія чакаюць Пуціна



Алесь КІРКЕВІЧ

**Чарговы герой матэрыялу з серыі партрэтаў фігурантаў «Справы патрыётаў» — Цімур Пашкевіч, інжынер-будаўнік, бацька двух сыноў, аматар айкідо і знавец свайго радаводу.**

Цімур у свой час паступіў у БПІ, а скончыў Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію па спецыяльнасці інжынер-будаўнік. Нашчадак засцянковай шляхты з-пад Слуцку, сем'янін і гаспадар, усмешлівы і лаканічны.

Чаму Калінінград Цімур упарта называе Каралеўцам? Адкуль цікавасць да айкідо і японскай філасофіі? Як гэта — глядзець у закратаванае неба і вылічваць, якім рэйсам самалёта жонка гэтым часам ляціць у Парыж? Гэтыя ды іншыя цікавосткі ў нашым матэрыяле.

## «Праз імя каўказцы лічаць за свайго»

***— Цімур — чаму вас так назвалі? Савецкая мода на творчасць Гайдара?..***

— Калі я нарадзіўся — бацькавым кумірам быў Фрунзэ. Ён чытаў, як той, седзячы ў камеры смяротнікаў, вывучаў англійскую мову, натхніўся. Калі надыходзіў час мне з'явіцца на свет, бацька сказаў: «У Фрунзэ быў сын Цімур, у мяне таксама будзе». Пры гэтым людзі з Каўказу і Поўдня распытваюць, ці не іхны зямляк — не вераць, што беларус.

З Фрунзэ атрымаўся цікавы збег абставінаў: усё жыццё я жыву ў Мінску, у Фрунзенскім раёне. Зараз, дарэчы, Следчы камітэт, які займаецца нашай справай, таксама знаходзіцца на вуліцы Фрунзэ... Вось так: жыццё перапоўненае сімваламі.

***— А як вы сталі інжынерам?***

— Мой бацька — таксама інжынер, служыў у інжынерных войсках. А мне падабалася яго праца, сам любіў нешта разлічваць, прымаць рашэнні згодна з разлікам. Так і пайшло па жыцці. Маці таксама інжынер.

Яе бацька, мой дзед, быў афіцэрам, меў 4 баявыя ордэны. Ён камандаваў батарэяй у знішчальным супрацьтанкавым палку. Як тады казалі: «Гармата доўгая, а жыццё кароткае...» Ваяваў пад Сталінградам, на Ізюм-Барвенкоўскім плацдарме, Дняпры. Беларусь пачаў вызваляць з ракі Проня, потым — Бабруйск, Мінск, далей праз Беласток ішоў у Прусію. У Польшчы ён з батарэяй тры дні стрымліваў танкавы прарыў праціўніка, за што атрымаў Ордэн Аляксандра Неўскага, якім узнагароджвалі толькі афіцэраў за выбітныя заслугі ў арганізацыі і кіраўніцтве баявымі аперацыямі.

У Прусіі дзед страціў нагу. Таму 9 мая 1945 года ён сядзеў на ложку ў шпіталі і плакаў, пакуль іншыя святкавалі. Яму было 22 гады, бачыў у жыцці толькі школу і вайну, марыў працягваць службу кадравага афіцэра... У 1946 годзе ён з сям'ёй прыехаў жыць ва Усходнюю Прусію, ваколіцы Каралеўца. Ён, дарэчы, і казаў мне, што трэба абіраць вайсковую спецыяльнасць, што будзе патрэбная ў грамадзянскім жыцці: хімік, аўтамабіліст ці інжынер.

***— Вы прынцыпова кажаце «Каралевец», а не Калінінград ці Кёнігсберг?***

— Мясцовая моладзь там кажа «Кёніг», не Калінінград. А для мяне, дык калі абіраць між бальшавіцкай назвай і нямецкай, то лепш згадаць старабеларускі аналаг — Каралевец. Так гэты горад называлі нашы продкі за часамі ВКЛ і пазней.

Шмат часу ў дзяцінстве я правеў ва Усходняй Прусіі — Калінінградскай вобласці. Падарожжы туды былі заўсёды на цягніку, а чыгуначны вакзал пачынаўся з паху вугалю. Дзед з бабуляй жылі ў нямецкім доме, у іх стаяў кацёл, было шмат вугалю ў падвале. Таму з маленства пах вугальнага дыму звязаны ў мяне з радзімай мамы.

У памяці засталіся вастракутныя стрэхі, крытыя чырвонай дахоўкай, брукаванка на пляцах і вулачках, прыгожыя дамкі з мансардамі за сятчатымі платамі. Таму я з жалем паглядаю на нашы будынкі з тупакутнымі ламанымі дахамі і глухія платы, зробленыя з профільных лістоў вышынёй 2 метры. Вельмі люблю тыя мясціны, адтуль, магчыма і цікавасць да гісторыі.

## Рыцар Радван і паштоўка ад Ніны Багінскай

***— А беларускія гістарычныя мясціны любіце наведваць?***

— Канешне, у мяне два сыны, дык мы і ў Міры, і ў Нясвіжы, і ў Брэсце былі, не кажучы пра розныя музеі ды драбнейшыя мястэчкі. Гэта ўсё наша гісторыя. Мая бабуля паходзіць з Семежава, каля Вызны — гэта колішні Слуцкі павет, мясціны паўстанцаў. Дзед са шляхецкага засценку Пятніца. Хата засталася, хоць там ужо і іншыя людзі жывуць, вельмі хачу туды з'ездзіць!

Я там апошні раз быў у 1991-м. Уявіце сабе, там былі земляныя падлогі! Вось так у нас засцянковая шляхта жыла. Планіроўка таго засценку дзіўная: сажалка па цэнтры, а вакол хаты — авал прыкладна метраў 100 на 300. Гісторыкі казалі мне, што ў такіх засценках маглі сяліць шляхту, якая не змагла давесці свае дваранскія правы.

***— Шляхецкія карані шукалі па архівах?***

— Сур'ёзна яшчэ не займаўся, але планую. Прозвішча «Пашкевіч» належыць да гербу Радван. Выглядае герб як харугва з крыжамі. Ёсць легенда пра ваяра Радвана, падраздзяленне якога падчас бітвы згубіла сцяг. Дык Радван паскакаў да бліжэйшай царквы, узяў там харугву — і з ёй вярнуўся на поле бою. Ворагі ўбачылі новы штандар і палічылі, што ідзе падмога, ды кінуліся на ўцёкі. Так Радван атрымаў рыцарства — шляхецтва па-нашаму.

Гэты герб я нават маляваў на паштоўках, якія дасылаў з СІЗА дадому. З малюнкамі яшчэ адна гісторыя: я вельмі прасіў, каб мне дaслалі выяву Пагоні, каб можна было перамалёўваць. Ніяк Пагоня не даходзіла, бо вымалі лісты... І вось прыйшла паштоўка ад Ніны Багінскай з наклеенай старой маленькай марачкай з Пагоняй пачатку 1990-х. З яе я пасля і намаляваў сваю «турэмную Пагоню». Я калі сыходзіў, пакінуў паштоўку аднакамерніку — каб меў пры сабе нацыянальны герб.

## Скарыстаць сілу ворага, каб перамагчы

***— Вы займаліся айкідо?***

— Некалі займаўся, так. Зараз ужо шмат гадоў збіраюся працягваць (смяецца). То часу няма, то грошай. Мне вельмі падабаецца японская культура, філасофія. А спачатку было шмат што незразумела: чаму людзі на калені становяцца ў зале? Чаму кланяюцца? Але гэта іерархія, свае правілы. Айкідо некалі стварыў чалавек, што займаўся трэніроўкамі японскага спецназу. Гэта стыль, дзе няма прыёмаў нападу, адно абарона. Ты карыстаешся сілай суперніка, каб яго ж перамагчы.

***— На жыццё такая філасофія распаўсюджваецца?***

— Ёсць такое. Часам лепш зрабіць паўкрокі ўбок і даць ворагу праляцець паўз цябе, чым стаяць на месцы і «бадацца». У маладосці яшчэ займаўся самба, дзюдо. З-за праблемаў са спінай не пайшоў служыць у войска, але заўжды стараўся сачыць за сваёй формай.



## «Згадваў бабулю, якая сядзела пры немцах»

***— Наколькі нечаканым для вас быў арышт увесну?***

— Цалкам нечаканым. Нешта чытаў пра 2010 год, пра «Амерыканку», глядзеў у інтэрнэце яе выявы... Так бывае ў мяне ў жыцці — цікаўлюся нечым, шукаю інфармацыю, а праз нейкі час яно само да мяне прыходзіць. Сёлета ж 25 сакавіка я меўся да цесця ехаць у вёску. Ён кажа: «Прыязджай, возьмем бензапілу, сад да ладу давядзем». Чаму не? То бок я не збіраўся нікуды, ні на які мітынг.

Увечары 21 сакавіка хацеў машыну на эстакаду загнаць. Прывёз дадому сына, павячэраў, кавы выпіў, пераапрануўся, узяў адмысловыя інструменты, спускаюся, заводжу, каб са двара выязджаць... А выезд ужо заблакаваны нейкім джыпам. Тут ужо бягуць, рукамі махаюць, дзверы адчыняюць... «Вы чаго?» Мяне з машыны выкідаюць, гляджу, нехта ўжо залазіць у маё аўто, глушыць рухавік. Так было.

***— Кажуць, маўляў, справа дабягае канца. Не хвалюецеся?***

— Ад мяне нічога не залежыць: сонца села — сонца ўстала. Жыву, як і жыў. Працую. Сяброў частка не тэлефануе...

***— То бок абрубілі кантакт?***

— Так, частка знікла наўпрост. Яны не тэлефануюць, я таксама. Такое жыццё. Гэта ж не новае ўсё, узгадайце 1937 год... Частка людзей насамрэч шчыра лічыць, што калі арыштавалі, — значыць, ёсць за што. Іншыя ж, наадварот, шукалі кантакты родных, каб нечым дапамагчы.

Дарэчы, адзіны чалавек у маёй сям'і, які сядзеў у вязні, — гэта мая бабуля. У час вайны яна працавала ў аптэцы і забяспечвала партызанаў медыкаментамі. Па падазрэнні ў сувязях з падполлем яе арыштавалі, трымалі ў вязніцы ў Слуцку і за 2 месяцы да вызвалення Беларусі вывезлі ў лагер у Сілезіі. Там яна будавала шахты. Вобраз бабулі, якую схапілі фашысты, падтрымліваў мяне ў вязніцах ужо XXI стагоддзя.

***— Цікавая гістарычная паралель...***

— Так... А яшчэ ў СІЗА на Валадарскага я чытаў «Новую зямлю» Коласа. Фактычна адкрыў наноў для сябе гэты твор. Прачытаў, дарэчы, калі даведаўся, што дзядзька Якуб пачаў пісаць яе ў тым самым Пішчалаўскім замку, які пабудавалі рускія цары, а наша адміністрацыя ўжо давяла да аварыйнага стану... Калі чытаў, то заўсёды ўяўляў майго цесця Юльяныча: ён амаль з тых жа мясцінаў, што і Колас. Ды і сам вельмі падобны на героя ў «Новая зямлі»:

*А дзядзька — о, ён акуратны!*<br>
*Работнік дзядзька наш выдатны:*<br>
*Ва ўсім парадак і лад любіць*<br>
*І часу дарма ён не губіць!..*

## «Выглядаў самалёт на Парыж»

***— Ці «Справа патрыётаў» на вашу свядомасць, планы?***

— Для мяне ўсё гэта, хутчэй, як «пераступіў і пайшоў далей». Смешна, калі нехта кажа з боку: «Во! Дык зараз табе за мяжу можна ехаць! Гэта ж палітыка!» Зняволеныя, з якімі сядзеў, напрыклад, сітуацыю адно ў гэтым ключы бачылі: разумелі, што палітыка, але выснова адна — дарога на Захад адчыненая. Дарэчы, цікавы феномен: шмат хто з вязняў чакае, што прыйдзе Пуцін і выпусціць.

***— Як так выпусціць?..***

— Маўляў, у Расіі больш лагоднае заканадаўства, і калі Беларусь стане нейкім чынам яе часткай, дык ім усім свеціць свабода. І ў «Амерыканцы», і на «Валадарцы» такое чуў — на поўным сур'ёзе чакаюць, спадзяюцца. Яны кажуць, што ў РФ, да прыкладу, няма мінімальнага тэрміну адносна крымінальных злачынстваў: ёсць верхняя планка, але ніжняя не вызначаная жорстка, як у нас: 3–5–8 гадоў, разумееце? То бок старт ад нуля фактычна. Гэта і хабарнікаў тычыцца, і эканамічных злачынцаў. Што казаць, калі і вертухаі таксама чакаюць, што пры РФ ім заробкі падымуць?..

***— Што плануеце далей?***

— Калі здымуць падпіску, абавязкова хачу куды-небудзь з'ездзіць з падарожжа ўсёй сям'ёй. Цікава, што 29 сакавіка сёлета жонка мелася ў Парыж ляцець, а мяне зачынілі. Я лічыў, што ёй варта ляцець, нават самалёты выглядаў падчас ранішніх прагулак у СІЗА: неба, хоць і закратаванае, але бачна было. Са мной чалавек сядзеў з Нацбанку, дык ён казаў, што раз на квартал лятаў раней у Парыж, таму вось гэты менавіта рэйс (паказваў пальцам у неба) акурат і мае быць — на 10.40, здаецца. Я глядзеў і думаў: «Вось, жонка паляцела...». Але, як высветлілася пасля, яна ад той паездкі адмовілася.

Хочацца ў загарадным доме рамонт дарабіць, лазню збудаваць, бо без лазні сяброў запрашаць неяк несалідна (смяецца). Ехаць не хочуць! Таму планаў багата.

# Алена Анісім: Універсітэт павінен

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ці магчыма беларусізаваць вышэйшую школу? З чаго пачынаць гэты шлях? Якія перспектывы і выклікі ў Нацыянальнага ўніверсітэта? Пра гэта гутарым з дэпутаткай Палаты прадстаўнікоў, старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны Аленай Анісім.**



***— Спадарыня Алена, як цяпер выглядае моўная сітуацыя ў сістэме адукацыі Беларусі?***

— Самае праблемнае пытанне ў тым, што ў нас, фактычна, няма непарыўнай адукацыі на беларускай мове. Усяго толькі крыху больш за 10% дзяцей у сярэдняй школе займаюцца па-беларуску. І гэтыя звесткі турбуюць ужо не толькі беларускую грамадскасць, але і міжнародную. Праз гэтыя факты ЮНЕСКА адносіць беларускую мову да ліку тых, якім пагражае знікненне.

Праблема, перадусім, палягае ў тым, што ў свой час не была запачаткаваная беларускамоўная адукацыя ў вышэйшых навучальных установах. Гэта не пакідае перспектыў навучанню па-беларуску ў сярэдніх школах. Таму сённяшняя наша задача — стварыць Нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай навучання.

У 2014 годзе Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны правяло маніторынг па ўсіх ВНУ краіны — і атрымаліся даволі цікавыя вынікі. У некаторых установах адукацыі, як, напрыклад, Інстытут журналістыкі БДУ, да 60% дысцыплін выкладаецца на беларускай мове. У іншых — нічога не выкладаецца па-беларуску, акрамя як прадметы «беларуская мова і прафесійная лексіка», а гэта ўсяго толькі 34 гадзіны. З іншага боку, падчас нарады ў Інстытуце мовазнаўства з вуснаў прадстаўніка Міністэрства адукацыі прагучала інфармацыя, што 23 ВНУ Беларусі могуць перайсці на беларускую мову адукацыі.

Але адна справа — дэкларацыі, іншая — рабіць. Вельмі паказальна тое, што некаторыя выкладчыкі ў розных ВНУ выкладаюць свае дысцыпліны па-беларуску. Сярод іх можна знайсці фізікаў, інфарматыкаў, медыкаў. Некалькі гадоў таму ў медуніверсітэце навучаліся дзяўчаты, якія запачаткавалі беларускую плынь. Калі яны скончылі навучанне, беларуская мова вельмі дапамагала ім у працы з людзьмі, і камунікацыя складвалася лепшая, чым па-руску.

Кепска тое, што, напрыклад, у педуніверсітэце дысцыпліны не выкладаюцца па-беларуску. Няма беларускамоўных лагапедаў (гэта пасля ўжо асобныя спецыялісты пераходзяць на беларускую мову). Гэта важна, бо руская і беларуская мова розныя па артыкуляцыі. На жаль, гэтаму не надаецца вялікага значэння. З гэтай нагоды Таварыства беларускай мовы шмат ліставалася з Міністэрствам адукацыі, але пакуль нічога не мяняецца. Будзем спадзявацца, што ў звязку з падрыхтоўкай новай рэдакцыі Кодэкса аб адукацыі ўдасца нешта зрабіць у гэтым плане. Я, як сябар кансультатыўна-метадычнага савета пры Міністэрстве адукацыі, буду ўвесь час уздымаць гэта пытанне. Бо ёсць, па-першае, дзяржаўная задача: нельга будаваць незалежную краіну, калі не клапаціцца пра сваю культуру і найперш — мову, не развіваць яе, не апекавацца яе прысутнасцю ў штодзённай прасторы. Мы ўжо бачым, да чаго гэта можа прывесці: размытая нацыянальная ідэнтычнасць, нізкая адказнасць грамадзян за лёс сваёй краіны, жаданне жыць інфантыльна.

Таму вельмі важна, каб кожны грамадзянін мог рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права карыстацца беларускай мовай, навучаць на ёй сваіх дзяцей, даць ім годную адукацыю, і каб з беларускай мовай чалавек мог сябе рэалізаваць.

***— Вы ўзгадалі новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі. Ці ўнесліся ў яе прапановы па пашырэнні беларускай мовы ў ВНУ?***

— На жаль, не. Пакуль што праца над Кодэксам прыпынілася, тым не менш, ідуць абмеркаванні, рыхтуецца парламенцкія слуханні па канцэптуальных падыходах да сістэмы адукацыі, і я спадзяюся, што цягам гэтых працэсаў нам удасца нешта зрабіць.

Калі мы ўвесь час апелюем да сістэмы адукацыі Савецкага Саюза, гэта не вельмі добра. Да таго ж мы забываемся, што ў тыя часы ўсё ж былі настаўнікі-наватары, якія эксперыментавалі, працавалі па сваіх аўтарскіх праграмах. На жаль, у сённяшняй нашай сістэме адукацыі гэтыя магчымасці вельмі звужаны. Але беларускую мову я бачу адным з крокаў для эксперыментаў. Па-першае, павінен з'явіцца Нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай навучання. Гэта павінна быць установа новага тыпу, сучасная, дынамічная, нефармалізаваная, з апірышчам на крэатыў і аўтарскі падыход, якая будзе даваць штуршок да самаразвіцця.

***— У Нацыянальнага ўніверсітэта ўжо ёсць зарэгістраваны юрыдычны адрас. Якія будуць наступныя крокі ў яго развіцці?***

— Мы рыхтуем канферэнцыю ў межах стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта, падчас якой хочам абмеркаваць і тое, якім бачыцца сучасны ўніверсітэт, якія для яго існуюць выклікі, а таксама хто гатовы выкладаць і навучацца па-беларуску.

***— Працэсы глабалізацыі ахопліваюць у тым ліку і адукацыйную сферу. Ці не спазніліся мы з Нацыянальным універсітэтам?***

— Гэта залежыць ад таго, як яго рэалізоўваць. Калі зацыклівацца толькі на выкладанні па-беларуску, — спазніліся і сёння, і ўчора. Сутнасць любой справы ў тым, каб яна была адэкватнай сучаснасці. Таму мы ні ў якім разе не спазніліся з Нацыянальным універсітэтам, калі будзем рабіць яго як сучасную ўстанову, прывабную па ўзроўні адукацыі і перспектыўнасці. Наша задача — каб універсітэт фармаваў інтэлектуальную і кіроўную эліту для будучыні Беларусі.

***— Як можна комплексна вырашыць пытанне прысутнасці беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі ў сённяшняй сітуацыі яе, мякка кажучы, не вялікай***

# «Больш за палову заробку

Павел АКСІНОВІЧ

**Мала паступіць у ВНУ, а пасля яго паспяхова скончыць. Вельмі важна пасля вучобы знайсці працу, на якой малады спецыяліст будзе не толькі атрымліваць нармальныя грошы, але і рэалізоўваць свой патэнцыял. Мы пацікавіліся ў былых выпускнікоў, як яны ўладкаваліся, наколькі цяжка было знайсці працу і куды адпраўляюць «бюджэтнікаў».**

### Марта, выпускніца Інстытута журналістыкі БДУ:

— Да моманту размеркавання я не паспела знайсці працу, таму давялося выбіраць з прапанаваных. Я сама з Маладзечна, і выбар стаяў паміж суседнімі райцэнтрамі — або фотакарэспандэнтам у Вілейку, або карэспандэнтам у Валожын. Я пагадзілася на другі варыянт. Ужо на працы змагла дамовіцца на пасаду стылістычнага рэдактара. Я даўно зразумела, што гэтая дзейнасць мне падабаецца значна больш, чым непасрэдна журналістыка. Цяпер я вычытваю палосы, выпраўляю памылкі і недахопы ў матэрыялах. Акрамя гэтага займаюся вядзеннем акаўнтаў выдання ў сацыяльных сетках.



Пакуль праца мне вельмі падабаецца: я чакала, што будзе горш. Калектыў трапіўся цудоўны, у любы момант магу звярнуцца да іх па дапамогу, і гэта надае мне ўпэўненасці.

Але, на жаль, рэдакцыя не валодае месцамі ў інтэрнаце, а здымаць пакой або кватэру ў Валожыне даволі дорага: на здзіўленне, цэны на жыллё тут — амаль як у Мінску. Таму даводзіцца кожны дзень ездзіць з Маладзечна на маршрутцы. Дарога займае каля 40 хвілін, але кошт праезду ў адзін бок — тры рублі. За месяц атрымліваецца немалая сума. Працаваць дома я не магу, бо вычытваю не электронную версію, а друкаваныя макеты. Таму падчас працоўнага дня я павінна знаходзіцца ў рэдакцыі, каб у выпадку неабходнасці адрэдагаваць новы макет.

Атрымліваю не вельмі шмат, але жыць можна. Пры жаданні і наяўнасці вольнага часу, магу пісаць матэрыялы для нашай газеты за ганарар, што, безумоўна, радуе.

Я не ведаю, што будзе па заканчэнні размеркавання. Хацелася б знайсці працу ў родным горадзе ці ў Мінску. У ідэале — працягнуць працаваць стыль-рэдактарам, але не ў газеце, а ў якім-небудзь выдавецтве або на вэб-рэсурсе. Але і магчымасць застацца ў Валожыне таксама канчаткова не адмаўляю.

### Уладзіслаў, выпускнік БДУІР:



— Яшчэ са школьных часоў я захапляўся праграмаваннем. На другім курсе ўжо прафесійна працаваў у IT-сферы, а на апошнім знайшоў вакансію Android-распрацоўніка ў вядомым інтэрнэт-каталозе. Туды я адправіў рэзюмэ, зрабіў тэставае заданне, і мяне запрасілі на сумоўе, якое я паспяхова прайшоў. Досвед ужо быў, як і працоўная кніжка, але ў яе ніхто не глядзеў. Універсітэт скончыў на платнай аснове, размяркоўвацца было не трэба.

У мае абавязкі ўваходзіць распрацоўка мабільнай прылады рэсурсу. У нас іх дзве: для каталога і аўтабарахолкі. Я пішу код, займаюся падтрымкай праграмы, адказваю на водгукі карыстальнікаў. Можна працаваць дома, але гэта не вельмі вітаецца.

Велізарная перавага маёй працы — стаўленне да супрацоўнікаў. У кожным пакоі офіса ёсць кандыцыянер і нават душ. Для адпачынку маецца гульнявы пакой з настолкамі, прыстаўкай ды іншымі гульнямі. Добрая кухня, дзе штодзень прысутнічае свежая садавіна і прадукты для перакусу: можна зрабіць хот-догі і бургеры. Кожнаму праграмісту ў офісе даецца на выбар imac або macbook: на мінулай працы такіх умоў не было. І даволі добры заробак, калі лічыць, што я — малады спецыяліст.

Калі шчыра, пакуль недахопаў у працы я не знаходзіў: да гэтага я напакутаваўся ў аўтсорсе і трохі ў стартапе. Таму цяпер мінусаў не бачу. Нядаўна працягнуў кантракт, так што сыходзіць не збіраюся. Але можа ў будучыні пачну сукенкі для вяселляў шыць — як адзін з былых нашых супрацоўнікаў.

### Ганна, выпускніца біялагічнага факультэту БДУ:

— Мяне размеркавалі ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр эпідэміялогіі і вірусалогіі. Яшчэ на другім курсе я вырашыла, што буду рабіць курсавую работу ў РНПЦ, бо я цікаўлюся вірусамі. Мне спадабалася, тут я напісала свой дыплом і вырашыла застацца на працы. Размеркаванне на біяфаку праходзіць так, што 90% выпускнікоў шукаюць сабе працоўныя месцы самі. Тое, што



прапануе факультэт, з кожным годам становіцца ўсё горш і ў плане заробкаў, і ў плане перспектыў. Па гэтых мерках я атрымала даволі добрую адпрацоўку, бо ўмовы ў большасці дзяржаўных лабараторый майго профілю яшчэ горшыя.

На працы я займаюся правядзеннем аналізаў на ВІЧ і гепатыты — ад апрацоўкі крыві да выдачы вынікаў пацыентам. Мне падабаецца, што мая пра-

# фармаваць эліту для краіны

***папулярнасці, не ўжываючы гвалтоўных метадаў?***

— Па-першае, неабходна прыняць рашэнне аб тым, што ў нас павінна быць неперарыўная адукацыя на беларускай мове. І пачаць ствараць гэтую сістэму пакрокава. Адразу адкрыць беларускамоўную гімназію складана, таму можна пачынаць з класаў. Зрабіць беларускамоўны клас самым прывабным з пункту гледжання якасці і чагосьці новага і незвычайнага. Напрыклад, у ім можна развіваць дзяцей на падставе ўзаемадзеяння некалькіх культур. Умоўна кажучы, адкрываем клас, дзе дзеткі вывучаюць беларускую культуру і італьянскую. Працуючы на беларускім грунце, вывучаючы беларускую культуру, дзеці паралельна параўноўваюць яе з іншай. Такім чынам, вучні будуць расці як грамадзяне, што вельмі важна, і яны будуць падрыхтаваныя да таго, што свет — шматаблічны і разнастайны.

***— Ці не ўзнікне праблем з пошукам спецыялістаў, якія змогуць даваць такую адукацыю?***

— Я думаю, не ўзнікне. Сёння маладыя людзі — дынамічныя, крэатыўныя і працаздольныя. Таму казаць, нібыта кітайскую мову можна вывучыць, а беларускую складана — лухта.

***— Як быць з выказваннямі міністра Карпенкі, які імкнецца нівеляваць любыя «няроўнасці» ў сферы адукацыі і заяўляе пра неабходнасць закрыцця гімназій?***

— Гімназіі як установы адукацыі ўжо набылі сваю адметнасць, маюць прыцягальнасць, у іх сфармаваўся дух здаровай канкурэнцыі і культуры ўзаемаадносін. Таму я выступаю за тое, каб не руйнаваць тое добрае, што мае права на жыццё. Калі ж у некаторых гімназіях ёсць недахопы, то трэба канкрэтна з гэтым і разбірацца, па фактах: мае месца хабар — значыць, трэба ліквідаваць гэту практыку. Ёсць іншыя пытанні — абазначыць іх. Але саму сістэму гімназічнай адукацыі я б пакінула. Не трэба ўсіх падганяць пад адзін узор. Людзі ўсе розныя ад прыроды, трэба даваць дзецям шанец рэалізаваць свае магчымасці максімальна.

***— Ужо не адзін дзясятак гадоў ідуць размовы пра неабходнасць выкладання ў ВНУ па-беларуску, чаму ўвесь час знаходзяцца нейкія перашкоды?***

— Перш за ўсё яны — у чалавечым фактары. Людзі не хочуць штосьці мяняць у сваім жыцці. Па-другое, вельмі шмат у сістэме адукацыі фармальнага, бюракратычнага. Бясконцыя справаздачы і паказчыкі выхалошчваюць сам сэнс адукацыі — каб дзеці выходзілі пасля вучобы падрыхтаванымі да жыцця, не баяліся працы, камунікацыі, умелі знайсці і зразумець самі сябе.

**Балонскі працэс ужо «загаварыў» па-беларуску**

Пакуль чыноўнікі шукаюць прычыны, каб адсоўваць беларусізацыю вышэйшай адукацыі на задні план, грамадскія ініцыятывы плённа працуюць над тым, каб сучасныя адукацыйныя стандарты былі даступныя выкладчыкам і студэнтам па-беларуску.

Выкладчыца беларускай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэту Аксана Семянькевіч пераклала некаторыя асноўныя праграмныя дакументы Балонскага працэсу з рускай мовы на беларускую. Аксана не толькі выкладае беларускую мову, але і сама працягвае ўдасканальваць свае веды на курсах "Мова Нанова". Менавіта ў супрацоўніцтве з «Мова Нанова» Грамадскі Балонскі камітэт ініцыяваў пераклад дакументаў на беларускую.

— Мне гэты праект быў цікавы з пункту гледжання знаёмства з праграмнымі дакументамі, бо я выкладчык вышэйшай навучальнай установы. Усе ведаюць пра Балонскі працэс, але хіба што адзінкі валодаюць першаснай інфармацыяй — я маю на ўвазе праграмныя дакументы, — распавядае Аксана Семянькевіч.

Цяпер перакладзеныя дакументы можна знайсці ў адкрытым доступе на сайце Грамадскага Балонскага камітэта bolognaby.org. Яны раскрываюць сутнасць сістэмы рэфармавання вышэйшай адукацыі, і, на думку Аксаны, вельмі важна, што гэтая інфармацыя загучала па-беларуску.

— Балонскія дакументы ёсць, фактычна, на ўсіх мовах — хаця б сыходзячы з гэтага важна, каб яны былі і па-беларуску. Па-другое, існуюць рэальны і ідэальны бакі гэтага пытання. Рэальны заключаецца ў тым, што ёсць людзі, якія чытаюць па-беларуску, і пераклад арыентаваны на такіх спажыўцоў. Ідэальны бок — гэта наяўнасць нацыянальнай праграмы ўваходжання ў Балонскі працэс, дык чаму яна не павінна гучаць па-беларуску? Таму, на мой погляд, дакументы на беларускай мове — гэта абавязковы элемент інфармацыі.

Аксана прызнаецца, што праца над перакладам дакументаў стала карыснай і для яе асабіста.

— Я шмат у чым па-новаму стала глядзець на Балонскі працэс. У нас яго інтэрпрэтуюць кардынальна па-іншаму. Як любая рэформа, ён балюча адбіваецца на выкладчыцкім складзе, на праграмах. Але ж самае галоўнае, сутнасць Балонскага працэсу не ў гэтым, а ў каштоўнасцях, закладзеных у яго, пра якія, фактычна, ніхто не гаворыць.

# аддаю на жыллё»

ца прыносіць карысць людзям, адчуваю сябе патрэбнай. Цікава засвойваць новыя методыкі дыягностыкі, паглыбляць і пашыраць свае веды.

Але мяне не задавальняе ўзровень заробку. Я сама з Маладзечна, і мне даводзіцца здымаць кватэру ў Мінску. На яе ідзе больш за палову заробку. Але мяне паабяцалі забяспечыць інтэрнатам. Паглядзім, што будзе.

Не радуюць у працы і савецкія перажыткі. Шмат бессэнсоўных папер ды непатрэбных структур. Але калектыў мяне задавальняе.

Я пакуль не вырашыла, ці застануся тут. Ёсць думкі працаваць не па спецыяльнасці.

**Аляксандр, выпускнік кафедры статыстыкі БДЭУ:**



— На працягу майго навучання выкладчыкі казалі, што размяркуюць у органы дзяржаўнай статыстыкі, так што патрэбы шукаць першае працоўнае месца не было, дый у прыватную фірму мяне маглі і не адпусціць. Найлепшых выпускнікоў звычайна пакідалі ў Мінску і адпраўлялі ў галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы ці вобласці. Можна было ўвогуле трапіць у цэнтральны апарат Белстата — самае прэстыжнае месца размеркавання па маёй спецыяльнасці. Атрымліваць «па 500» ў дзяржорганах статыстыкі, як мне распавядалі, можна, але толькі ў цэнтральным апараце і не на самай нізкай пасадзе.

Але адбылася апымізацыя кадраў дзяржорганаў. Пра гэта мне паведамілі толькі падчас пераддыпломнай практыкі. І ўсё ж я спадзяваўся, што хоць адно месца ў Мінску будзе, бо я ішоў першым на размеркаванне. І ў выніку лепшай вакансіяй для адпрацоўкі стала пасада эканаміста ў Галоўным статыстычным упраўленні Віцебскай вобласці. Але я жыву ў Мінску, ехаць у Віцебск мне не хацелася, дый жыллё не прапанавалі. У выніку мне ўдалося пераразмеркавацца. Але не ўсё было так проста. Я прайшоў шэраг бюракратычных момантаў, аж да таго, што давялося ехаць у Віцебск, афарміцца там на працу і звольніцца праз пару дзён.

Цяпер я працую ў Галоўным інфармацыйна-аналітычным цэнтры Міністэрства адукацыі. Мая пасада гучыць як «бізнес-аналітык», што не зусім супадае з дыпломам. А займаюся я і не першым, і не другім. Я меркаваў, што буду працаваць з аналітыкай у сваёй сферы і займацца навуковай дзейнасцю, як мне абяцалі на сумоўі. Спачатку мы з калегамі рабілі папяровую працу, напаўнялі сайт ведамства кантэнтам, і нават стваралі акаўнты ў сацыяльных сетках. Далей удзельнічалі ў арганізацыі Рэспубліканскага педагагічнага савета на ўзроўні валанцёраў: раздавалі бэджыкі і рэкламныя пакункі.

Прафесійныя навыкі статыстыка я выкарыстоўваю вельмі мала: толькі аднойчы напісаў аналітычную запіску, ды пры апісанні дакументацыі часта звяртаюся да лічбаў. Нават зараз прыкладна 95% усіх маіх абавязкаў не маюць ніякага дачынення ні да аналітыкі, ні да статыстыкі.

Але ўсё ж праца разнастайная і цікавая. Яна дае магчымасць пашырыць кола інтарэсаў. Я навучыўся напаўняць сайт, займацца тэхнічным перакладам. Калектыў вельмі малады, гэта таксама радуе.

Рэалізавацца па спецыяльнасці тут будзе няпроста. Пасля двух гадоў размеркавання я чакаю ўсё ж болей доследу. Сапраўднай бізнес-аналітыкі ў маёй працы было няшмат, і пакуль маё прафесійнае развіццё ідзе не зусім у тым накірунку, у якім хацелася б. Заробак таксама не вельмі: зараз я працую на 1,25 стаўкі амаль па 11 гадзін з панядзелка па пятніцу і атрымліваю ўсё адно далёка не «сярэдні па краіне».

**Ганна, выпускніца БДУІР:**

— Мне пашанцавала адпрацаваць сваё бюджэтнае навучанне ў вельмі вядомай краме. Ва ўніверсітэце выпускнікоў імкнуліся «прыткнуць» хоць куды, усіх прымушалі самастойна шукаць працу. Тых, хто не варушыўся, нават выклікалі ў дэканат і пужалі размеркаваннем невядома куды, калі не знойдуць месца. Такім чынам, маё ўладкаванне ў «ІП Белавус» не выклікала ніякіх пытанняў. Гэта толькі зрабіла палёгку кафедры: яшчэ з адным студэнтам не трэба разбірацца.



З камандай крамы я пазнаёмілася даўно. У 2014-м я прайшла «Школу арт-менеджараў» ад «Арт-Сядзібы» і перыядычна дапамагала ўстанове ў арганізацыі мерапрыемстваў і акцыяў. Праз нейкі час я навучылася маляваць на камп'ютары і пачала рабіць для пляцоўкі афішы і малюнкі для сацсетак. Напачатку года хлопцы запрасілі мяне на сталую працу інтэрнэт-маркетолага.

Калі працуеш у маленькай кампаніі, штат якой складаецца з некалькіх чалавек, так ці інакш даводзіцца займацца амаль усім. Асноўная мая праца — вядзенне сацыяльных сетак, рэклама ў інтэрнэце, камунікацыя з кліентамі, адміністраванне сайту, стварэнне макетаў для прамоцыі.

Я вельмі палюбіла працу ў сацсетках і спрабую развівацца ў гэтым кірунку. Таксама любімай часткай застаецца праца з графічнымі рэдактарамі — я захаплялася гэтым яшчэ са школы і заўжды хацела, каб мая прафесія была звязаная з дызайнам. Менавіта творчая частка натхняе і матывуе да руху наперад. Заробак мяне цалкам задавальняе: хапае на адпачынак, магчыма ў будучыні буду здымаць кватэру.

Галоўны недахоп — прыходзіцца працаваць у офісе, а не дома, хоць большасць маіх абавязкаў выконваюцца праз камп'ютар. Таму пяць разоў на тыдзень даводзіцца ездзіць на працу электрычкай з Дзяржынска. Часам стамляе манатонная частка — калі табе трэба выставіць на сайт мноства тавараў ці калі адзін за адным паступаюць тэлефанаванні з аднолькавымі пытаннямі. Але ж гэта неад'емная частка працэсу.

Сыходзіць пасля размеркавання пакуль не збіраюся. Наш калектыў — гэта тыя людзі, з якімі я марыла працаваць, ды і тая справа, за якую заўсёды ўсёй душой. Таму я матываваная яе рабіць якасна і ўвесь час развівацца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Неабвешчаная мабілізацыя

Ва Украіне працягваецца мабілізацыя ў войска, якую афіцыйна ніхто не абвяшчаў.

Не абвяшчалі мабілізацыю з вядомай прычыны — жадаючых ісці служыць вельмі мала: напрыклад, у Кіеве ў ваенкаматы прыйшло толькі 4 працэнты тых, каму даслалі позвы. Як следства, супрацоўнікам ваенкаматаў даводзіцца ісці на самыя незвычайныя крокі. Так, у Львове і Кіеве прайшлі аблавы ў папулярных сярод моладзі клубах. Частку затрыманых адправілі ў ваенкаматы. Не пашанцавала і некаторым кіеўскім бамжам, якім пасля арышту таксама ўручылі позвы. А ў Чарнігаве ў войска паклікалі інваліда дзяцінства, які нікуды фізічна пайсці не можа. Калі верыць праваабаронцам, позвы ўручаюць таксама людзям сталага веку і пацыентам наркалагічных клінік. Падобная тактыка ваенкомаў выклікае адпаведную рэакцыю ў тых, каму пагражае мабілізацыя. У Вінніцы малады чалавек, атрымаўшы позву ў войска, тэрмінова ажаніўся з 82-гадовай далёкай сваячкай. Логіка ўчынку зразумелая — «маладая» 1935 года нараджэння з'яўляецца інвалідам I групы і мае патрэбу ў апецы, перш за ўсё, законнага мужа.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Пакрыўдзіліся на гімн

За акіянам працягваецца крыжовы паход за паліткарэктнасць, які ставіць пад пытанне самыя сакральныя тэмы. Барацьбіты з расізмам пачалі падазраваць, што тэкст цяперашняга амерыканскага гімна абражае пачуцці афраамерыканцаў, і наогул услаўляе рабства. Пра гэта сведчаць словы гімну: «No refuge could save the hireling and slave» («Няма прытулку для выратавання для найміта і раба». Пад рабом тут трэба разумець канкрэтную групу асобаў — афраамерыканцаў, якія падчас англа-брытанскай вайны 1812 года збягалі ад гаспадароў і пераходзілі на бок брытанцаў, каб атрымаць персанальную свабоду. Гісторыкі згодныя, што тую фразу трэба разумець менавіта так. У тым ліку і таму, што Фрэнсіс Кей, аўтар тэксту гімна, паводле сведчанняў сучаснікаў, заклікаў да расправы над рабамі, што збягалі да брытанцаў. Не кажучы пра тое, што, будучы рабаўладальнікам, ён выступаў супраць свабодаў для афраамерыканцаў. Спасылаючыся на гэтыя факты, адна з афраамерыканскіх арганізацый ужо запатрабавала ад Кангрэсу рэформы гімну. Цяжка сказаць, ці атрымае справа працяг, аднак працэс, як казаў Гарбачоў, ужо пайшоў. У Вашынгтоне вандалы нядаўна пашкодзілі манумент Кею, распісаўшы яго графіці: «Аўтар гімну расістаў».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Задорнаў мог стаць прэзідэнтам

На фоне некралогаў і артыкулаў пра расійскага гумарыста Міхаіла Задорнава асобна стаяць публікацыі, аўтары якіх узгадваюць незвычайную постаць сатырыка. Як вядома, у ноч на Новы 1992 год менавіта ён віншаваў насельніцтва былога Савецкага Саюза з Новым годам. Для большасці гэта быў вельмі добры жарт. Аднак, на думку некаторых, жарт могператварыцца і ў нешта больш сур'ёзнае. Пасля развалу СССР былыя савецкія рэспублікі сутыкнуліся з моцным крызісам, што выклікала калапс рэйтынгаў палітыкаў. Міхаіл Задорнаў мог у такой грамадскай атмасферы канвертаваць сваю шалёную папулярнасць у пасаду прэзідэнта Расіі. Натуральна, дадатковым і сімвалічным фактарам была б тая гісторыя з навагоднім віншаваннем. Важна таксама нагадаць, што ў той жа час прэзідэнтам Чэхаславакіі стаў драматург Вацлаў Гавел, што спрыяла пазітыўнаму ўспрыманню ідэі прыходу артыстаў ва ўладу. Аднак Задорнаў той унікальны шанец не выкарыстаў — у адрозненне, скажам, ад Жырыноўскага, які ў 1993-м ператварыўся ў сімвала пратэсту. Праўда, магчыма, Задорнаў цвяроза глядзеў на сітуацыю. Будучы выхадцам з Рыгі, ён усё роўна выглядаў у вачах рускіх трошкі іншым, «заходнім рускім», як яго часам называлі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Лютэр — бацька Brexit

Брытанская газета «The Guardian», адзначаючы цяперашнюю 500-ю гадавіну рэфармацыі, абвінавація яе аўтара Марціна Лютэра ў выхадзе Вялікабрытаніі са складу ЕС. Такі тэзіс падаецца экстравагантным толькі на першы погляд. Аўтары артыкула нагадваюць, што адна з галоўных ідэяў Лютэра — магчымасць выратавання годных хрысціян праз радыкальнае размежаванне з Рымам, які, быццам, здрадзіў вучэнню Хрыста. Установка на ізаляцыю ад Рыма ў свой час стала падмуркам для стварэння нацыянальных пратэстанцкіх цэркваў, у тым ліку англіканскай. Хаця з часам вага рэлігіі ў брытанскім грамадстве скарацілася, ідэя адметнасці Брытаніі засталася часткай масавай ідэалогіі. Тое, што брытанцы ў мінулым годзе прагаласавалі за выхад краіны з ЕС, — праява комплексу, які заклаў у свядомасць заснавальнік пратэстантызму.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.rossaprimavera.ru

# Шэсць Армагедонаў ад Бундэсвера

Алег НОВІКАЎ

**Экспертную супольнасць накаўтаваў прагноз Мінбароны Германіі, што дапускае развал Еўрасаюза, з'яўленне еўрапейскага Пуціна і нават удзел некаторых краін Еўропы ў еўразійскай інтэграцыі.**

«Стратэгічная перспектыва 2040» — так называецца гэты скандальны рапарт. Увогуле, тэкст падрыхтавалі яшчэ ў лютым, аднак толькі зараз нямецкія журналісты з часопіса «Der Spiegel» здолелі зазірнуць у сакрэтны 110-старонкавы дакумент, каб падзяліцца з чытачамі ўбачаным.

Распрацавалі «Стратэгічную перспектыву» па замове кіраўніцтва дэпартаменту. Урсула фон дэр Ляен — кіраўніца Мінабароны Германіі, — вырашыла даведацца, якія грамадскія тэндэнцыі і міжнародныя канфлікты могуць паўплываць на палітыку бяспекі краіны ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Аднак тое, якім чынам будзе дзейнічаць Бундэсвер, мала каго цікавіць. У фокусе ўвагі апынуліся сцэнары на будучыню.

Усяго сцэнараў, якія разлічаныя на бліжэйшыя 25 гадоў, шэсць. І кожны з іх адзін горшы за другі. У лепшым выпадку, трэба чакаць, што ЕС замарозіць праект еўрапейскай інтэграцыі і пашырэння на Усход праз праблемы адаптацыі нядаўна прынятых сяброў. Пры такім варыянце падзей Брусэль чакае выклік у выглядзе з'яўлення на Усходзе агрэсіўнага блоку Расіі і Кітая, які спрабуе (і, дарэчы, паспяхова) перацягнуць на свой бок некаторыя краіны ЕС. Праўда, да адкрытай канфрантацыі з Пекінам і Масквой справа ўсё ж не дойдзе.

Што тычыцца самага брутальнага сцэнару, то нас чакае разбурэнне ЕС і шматлікія ўнутраныя канфлікты на яго тэрыторыі. Дадатковым антуражам апакаліпсісу выступіць эканамічны крах ЗША — уверцюра да катастрофы сусветнай эканомікі і заканчэння глабалізацыі. Цікава, што да найгоршага сцэнару, на думку прэсы, аўтары даследавання чамусьці не дайшлі. Па меркаванні журналістаў таго ж «Der Spiegel», такі варыянт павінен быў уключаць магчымасць спынення дзейнасці NATO і Бундэсвера.

Сярод іншых сцэнараў, напэўна, будзе цікавы прагноз, паводле якога Еўропа для вырашэння праблемаў пачне імпартаваць расійскую дзяржаўна-капіталістычную мадэль. У выпадку з'яўлення еўрапейскага Пуціна аўтары рапарту не выключаюць канец еўрапейскай дэмакратыі.

Хаця стваральнікі дакумента асобна падкрэсліваюць, што прапанавалі не стоадсоткавыя прагнозы, а толькі мадэлявалі развіццё падзей, футуралогія ад Бундэсвера шакавала публіку. Так ці інакш, вайсковы дэпартамент Германіі — гэта сур'ёзная кантора. Праўда, хапае і тых, хто не верыць у прафесіяналізм нямецкіх аналітыкаў. Адзін з крытыкаў «Перспектывы» напісаў, што аўтары тэксу яўна начыталіся коміксаў, адкуль і ўзялі сюжэты для дакумента.

А вось у амерыканскім выданні «Politico» мяркуюць, што немцы занадта аптымістычна ацанілі шанцы Расіі захавацца ў бліжэйшы час, і тым больш — пагражаць Захаду. На думку аўтара тэзісу, сучасная расійская мадэль — дастаткова слабая. Не бачыць ён і перспектыў для малых краін Усходняй Еўропы, якія эканамічна вельмі слабыя. На месцы перыферыйных краін ЕС прагназуюць паўстанне шэрай зоны, нейкі пояс бяспекі, які працягнецца ад Балканаў да Іспаніі і будзе абараняць багатую Поўнач ад мігрантаў з Поўдня і ісламістаў Блізкага Усходу.

Крытыкуюць аўтараў дакумента і за тое, што яны цалкам праігнаравалі ўплыў палітычнага працэсу ў ЗША на сітуацыю ў Старым свеце. Напрыклад, канфлікт паміж Трампам і яго апанентамі на пэўным этапе, як пішуць некаторыя, можа выклікаць юрыдычны казус, які паступова паралізуе нармальную сістэму адміністрацыі і заканадаўчых органаў. Такая версія падзей адразу скароціць прысутнасць і вагу ЗША ў Еўропе, даючы магчымасць Маскве ўзмацніць свой ціск на Брусэль і дамагчыся нейкіх бонусаў.

Польская праўрадавая прэса пабачыла ў фрагменце пра магчымы пераход некаторых краін Усходняй Еўропы пад дах Масквы наўпроставае жаданне немцаў аддаць Польшчу пад дыктат Масквы — як вынік нейкай здзелкі. Праўда, тут спадзяюцца, што аўтары дакладу не ўлічылі важны фактар: больш за мільён мігрантаў з Усходу, якія Германія прыняла падчас крызісу ўцекачоў. Праблема мігрантаў, маўляў, аслабіць радзіму Меркель і не дазволіць Германіі гандляваць больш слабымі партнёрамі па ЕС.

Брытанская публіка, наадварот, вітала дакумент, паколькі большасць апісаных сцэнараў прагназуюць хуткі крызіс Еўрасаюза. Маўляў, выхад Вялікабрытаніі са складу ўдзельнікаў еўраінтэграцыі быў слушным крокам.

Нельга не заўважыць, што дакумент стаў вядомы грамадскасці на фоне імклівай актывізацыі знешняй палітыкі Парыжу. Прагнозы «Der Spiegel» былі апублікаваныя ў той час, калі Эмануэль Макрон агучыў свой план рэфармавання ЕС, які павінен ператварыцца ў больш цэнтралізаваную структуру. Напрыклад, французскі гарант прапануе ўвесці агульнаеўрапейскі пашпарт, стварыць адзіны вайсковы бюджэт і, адпаведна, — агульную еўрапейскую армію. Энтузіязм Макрона адразу надаў яму імідж новага лідара Еўропы, які ідзе на змену Ангеле Меркель, што наўрад ці падабаецца апошняй. Магчыма, за кошт публікацыі «Перспектывы», якую наўмысна злілі журналістам, Берлін астудзіў амбіцыі Макрона.

Большасць аналітыкаў са праўды бачыць у «Стратэгічнай перспектыве» пэўны элемент прапагандысцкай вайны Берліну. Інакш наўрад ці да дакументу з грыфам «сакрэтна» дапусцілі б журналістаў. Тым не менш, застаецца шмат пытанняў, на грунце якіх крыніц і паводле якой метадалогіі аналітыкі Бундэсвера зрабілі свае апакаліптычныя прагнозы.

# Фініта ля футбол

Алег НОВІКАЎ

**Зборная Італіі не здолела абыграць каманду Швецыі ў стыкавым матчы за выхад у фінальную частку на Чэмпіянат свету па футболе 2018 года ў Расіі і прапусціць сусветнае першынства. Упершыню за 60 гадоў! Уся Італія — у жалобе.**



Фота www.news.xinhuanet.com

**Фрустрацыяй італьянцаў на глебе футболу ўжо паспрабавалі скарыстацца мясцовыя правыя, якія пераклалі адказнасць на адміністрацыі клубаў, бо тыя займелі практыку запрашаць таленавітых іншаземцаў замест мясцовай моладзі**

Распавядаюць, што футбалістаў зборнай Венгрыі, якія прайгралі немцам фінальны матч Кубку свету 1954-га, кіраўніцтва краіны збіралася пасадзіць у турму як ворагаў народу. Навіна была ўспрынятая футбалістамі вельмі пазітыўна. Толькі за кратамі ў гульцоў з'яўляўся хоць маленькі шанец выратавацца ад пераследу раз'юшаных фанатаў.

Апісаны эпізод адразу прыходзіць на памяць, калі чытаеш італьянскія інтэрнэт-форумы, дзе абмяркоўваецца правал «скуадра адзуры» (так часта называюць італьянскую зборную). На адрас гульцоў гучаць ледзь не смяротныя пагрозы. Напрыклад, некаторыя высвятляюць адрасы футбалістаў і трэнера і раяць ім хутчэй збегчы з краіны.

Праўда, часам даходзіць да смешнага. Напрыклад, шмат хто незадаволены тым, што пасля фінальнага свістку сярод італьянскіх футбалістаў заенчыў толькі брамнік Джанлуіджы Буфон. Гэта, быццам, сведчыць пра тое, што іншым футбалістам гонар краіны і настрой гледачоў былі абыякавыя. Хапае ў сеціве і драматычных допісаў, напрыклад: «Лепш бы я памёр перад пачаткам матчу».

Як ні смешна, сваю ролю тут адыграў і гараскоп. Наступны 2018 год — год сабакі. Менавіта ў год гэтай жывёлы «скуадра адзура» выйграла тры кубкі з чатырох — у 1934, 1982 і 2006 гадах! Таксама ў год сабакі Італія двойчы гуляла ў фіналах Кубка свету — у 1970 і 1994. Адным словам, усё, падавалася, сведчыла пра хуткі трыумф італьянцаў на футбольных палях Расіі — калі б не пракол са шведамі.

Акрамя таго, матчу са Швецыяй папярэднічала кампанія ў прэсе. «Перамога або нічога», «Сёння будзе вайна», — вось некаторыя з загалоўкаў італьянскіх газет у дзень гульні. Не дзіўна, што некаторыя ацэньваюць вынікі гульні зборнай як нацыянальную катастрофу. Каментатары дазваляюць сабе нават думкі пра тое, што італьянскі футбол ніколі ўжо не адродзіцца.

Што тычыцца спецыялістаў, то яны лічаць фіяска ў стыках са Швецыяй у чымсьці заканамерным. Каманда складаецца (або, дакладней сказаць, складалася) напалову з ветэранаў, гатовых вось-вось развітацца з кар'ерай, а напалову — з прадстаўнікоў новага пакалення. Амаль ніхто не сумняваецца, што цяперашняму трэнеру хутка будуць шукаць замену. Больш за тое, пра сыход з каманды заявілі трое футбалістаў.

Прэса заклікае фанатаў не ўспрымаць правал так балюча. У любым разе, гэта ўжо другі выпадак у гісторыі, калі Італія не прайшла ў Чэмпіянат свету. У 1958-м Італія прапусціла турнір пасля пройгрышу Паўночнай Ірландыі, і тады асаблівай істэрыкі ў краіне не назіралася. З іншага боку, на той час вялікіх амбіцый у італьянцаў не было. Футбольная інфраструктура на Апенінах толькі-толькі адбудавалася пасля вайны. У дадатак, у 1948 годзе ў Альпах разбіўся самалёт з футбалістамі клубу «Тарына» — базавай каманды для тагачаснай зборнай.

Ёсць, натуральна, і комплексны аналіз сітуацыі, калі слабая гульня зборнай разглядаецца як люстэрка больш глабальных трэндаў. «Краіна ў заняпадзе ва ўсіх адносінах — мастацтва, кіно, музыка, палітыка, мода, аўтамабілі. Цяпер знікла адна з тых нешматлікіх рэчаў, якія мы добра ведалі, — мастацтва гуляць у мяч. Ад старой добрай Італіі засталася хіба што кухня, аднак гэта, думаецца, не надоўга», — піша адзін з журналістаў выдання «Gazetto dello Sport».

Фрустрацыяй італьянцаў на глебе футболу ўжо паспрабавалі скарыстацца мясцовыя правыя, якія пераклалі адказнасць на адміністрацыі клубаў, бо тыя даўно займелі практыку запрашаць таленавітых іншаземцаў. У выніку мясцовая моладзь, маўляў, аказалася слаба запатрабаванай, што выявілася ў кволай гульні «скуадра адзуры». Натуральна, правыя ўзгадалі, што менавіта пры дыктатуры Беніта Мусаліні, які асабіста патранаваў футбол, італьянцы двойчы былі ўладальнікамі залатога кубку чэмпіёнаў свету.

Гучыць ідэя нацыяналізацыі ўсёй футбольнай гаспадаркі на некалькі гадоў, каб надаць маладым футбалістам стабільны заробак і сацыяльны пакет. За кошт такой радыкальнай меры аўтары ініцыятывы мараць пачаць новую эру ў італьянскім футболе. Думаецца, што пераход італьянскага футболу на адміністрацыйна-камандныя рэйкі — гэта нешта з галіны фантастыкі. А вось скарачэнне квоты для іншаземцаў у італьянскіх клубах — дастаткова рэальная перспектыва.

Так ці інакш, агульны тонус італьянцаў пасля фатальнага матчу са шведамі сапраўды цяпер вельмі адмоўны. Гэта дакладна паўплывае на іх палітычную матывацыю, узмоцніць апатыю і пачуццё безнадзейнасці.

Напрыканцы застаецца ўзгадаць яшчэ адзін кур'ёз. Канфуз італьянцаў выпадкова ўзняў рэйтынг беларускай зборнай. Паводле словаў вядомага расійскага каментатара Васіля Уткіна, зборная Італіі гуляе цяпер гэтак жа кепска, як зборная Беларусі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ральф Нортам



Новы губернатар штату Вірджынія, сябра дэмакратычнай партыі ЗША на выбарах 7 лістапада апярэдзіў рэспубліканца Эда Гілеспі. Пры гэтым перамога Нортама стала больш пераканальнай, чым прадказвалі апытанні.

Гэта не адзіны поспех дэмакратаў. Іншы дэмакрат, Біл Дэ Блазіа быў пераабраны мэрам Нью-Ёрка на другі тэрмін, аж да 2022 года. Перамаглі дэмакраты таксама і на выбарах губернатара ў Нью-Джэрсі — вельмі важным рэгіёне, паколькі ён уваходзіць у спіс штатаў, якія «вагаюцца» (штаты, дзе ніводная з двюх найбуйнейшых партый не мае падтрымкі ўстойлівай большасці выбаршчыкаў). У выніку ўсе пачалі казаць, што дэмакраты рэабілітаваліся пасля правалу Клінтан на леташніх прэзідэнцкіх выбарах і могуць паспрабаваць вярнуць сабе большасць у Кангрэсе на прамежкавых выбарах праз год.

Практычна ўсе пагаджаюцца, што поспех «аслоў» шмат у чым дэманструе ступень незадаволенасці амерыканцаў палітыкай Дональда Трампа. Праўда, сам Трамп упэўнены, што ўсё ў краіне ідзе нармальна. Паводле яго слоў, Гілеспі прайграў з-за таго, што не хацеў сябраваць з адміністрацыяй Трампа, якая, дарэчы, дамаглася нейкага эканамічнага росту.

Палітолагі таксама заклікаюць дэмакратаў устрымацца ад эйфарыі. Партыя дасюль знаходзіцца ў пошуках ідэнтычнасці.

### Генадзь Зюганаў

Лідар расійскіх камуністаў стаў ахвярай спекуляцый. На мінулым тыдні з'явіліся плёткі, што ён збіраецца ісці на выбары прэзідэнта Расіі, якія адбудуцца ў сакавіку 2018-га.

Навіна выклікала расчараванне, паколькі «дзядзька Гена» (мянушка лідара КПРФ) даўно стаў сімвалам імітацыі палітычнай канкурэнцыі. У КПРФ інфармацыю пра балаціроўку Зюганава хутка абверглі, запэўніўшы, што ў партыі «досыць вялікая колькасць людзей, якія могуць быць прадстаўленыя ў якасці кандыдата». Гэта, у сваю чаргу, выклікала энтузіязм у грамадскасці. З'явілася надзея, што супраць Пуціна мае шанец выступіць несістэмны апазіцыянер, які, па-першае, дзякуючы партструктурам КПРФ зможа сабраць неабходныя для рэгістрацыі подпісы. І, па-другое, за кошт левай, сацыяльнай рыторыкі дагрукаецца да простых людзей.

Называюць прыкладна тузін імёнаў патэнцыйных пераемнікаў Зюганава, сярод якіх пісьменнік Захар Прылепін, функцыянер Валерый Рашкін, выконваючы абавязкі белгародскага губернатара Арцём Клычкоў, эканаміст Міхаіл Дзялягін. Напэўна, самы незвычайны прэтэндэнт у кандыдаты ад КПРФ — Юрый Болдыраў, адзін заснавальнікаў ліберальнай партыі «Яблоко», які з часам «палявеў».

Праўда, не факт, што Зюганаў адмовіцца ад балаціроўкі. У адным з інтэрв'ю ён назваў усіх сваіх канкурэнтаў «фіцюлькамі».

### Адрэ Азуле



Былая французская міністарка культуры абраная новай дырэкткаркай Камісіі ААН па адукацыі, навуцы і культуры (UNESCO).

Арганізацыя, якую ўзначаліла Азуле, знаходзіцца ў крызісе. У кастрычніку яе шэрагі пакінулі ЗША і Ізраіль — беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі UNESCO. Нефармальна лічыцца, што Вашынгтон і Тэль-Авіву не спадабалася праарабская пазіцыя Камісіі ў палесцінскім пытанні. Напрыклад, пры папярэднім кіраўніцтве быў прыняты дакумент, які адмаўляе сувязь габрэйскага народа з Храмавай гарой у Іерусаліме.

Падаецца, гэтую праблему і павінна вырашыць новы гендырэктар. Напэўна, ёй дапаможа яе арыгінальная біяграфія. Француженка паходзіць з габрэйскай сям'і з Марока, што не перашкодзіла яе бацьку ў свой час працаваць дарадцам мясцовага караля.

Праўда, кандыдатура Азуле ўсё роўна не спадабалася шэрагу кіраўнікоў арабскіх краінаў. Напярэдадні выбараў панавала думка, што ўпершыню ў гісторыі пасаду кіраўніка павінен заняць прадстаўнік з арабскай краіны. Але ў выніку арабы чамусьці не знайшлі кансенсусу па адзінаму кандыдату, чым і скарысталася Азуле. Падчас галасавання яна атрымала на два галасы больш за прадстаўніка Катару.

# Прымусовая праца: галоўны

Таццяна ПРОЦЬКА

**Прымусовая праца ў савецкай дзяржаўнай сістэме была не тое што важнай, а неад'емнай часткай сістэмы. Яна была часткай савецкай ідэалогіі, згодна з якой сацыяльная дзяржава — дзяржава толькі для працоўных, а непрацуючыя ліквідуюцца — або знішчаюцца, або ізалююцца, або перавыхоўваюцца.**




Карта СССР з лагерамі ГУЛАГу. На канец 1940 года ў сістэме ГУЛАГу дзейнічалі больш за 70 лагераў

Пры гэтым прымусовая праца не толькі лічылася найбольш эфектыўнай формай перавыхавання, але і была значным складнікам савецкай эканомікі. Яна давала краіне самую танную працоўную сілу, якую можна было выкарыстоўваць, перш за ўсё, на непапулярных, «брудных» і цяжкіх працах.

Тэма выкарыстання прымусовай працы ў савецкі час у гісторыкаў непапулярная, таму дазволю сабе расказаць пра яе больш падрабязна. Асабліва карысна ведаць, як гэта было, каб зразумець, як можа быць. Сумна знакаміты Дэкрэт №3, які атрымаў у народзе назву «дармаедскага», — толькі цьмяны водгалас працэсаў, якія адбываліся ў Беларусі ў 1930-я гады.

## Царская Расія: толькі для крымінальнікаў

У пачатку XX стагоддзя ў Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, прымусовая праца была формай пакарання за крымінальныя злачынствы, звязаныя з пазбаўленнем волі, і называлася катаргай. Катаржныя турмы, як правіла, знаходзіліся ў Сібіры і былі разлічаныя на ўтрыманне ўсяго некалькіх тысяч чалавек. На катарзе зняволеныя (акрамя палітычных) абавязаныя былі працаваць. Аднак у Сібіры з-за малой колькасці насельніцтва, адсутнасці шляхоў зносін у турэмных майстэрнях не было ніякага эканамічнага сэнсу.

Пасля 1905 года змясціць усіх рэпрэсаваных сібірская катарга ўжо не магла (там знаходзілася на той час 6 143 чалавекі), таму стала практыкавацца адбыццё пакарання «па месцы жыхарства» — у павятовых турмах або часовых катаржных турмах. У 1909 годзе, настойваючы на захаванні і развіцці катаргі, Савет міністраў меркаваў выкарыстаць «магчымасць шырокага развіцця ў Сібіры ў недалёкай будучыні вонкавых прац, якія там ужо здзяйсняюцца, і затым магчымасць выкарыстання працы катаржных пры пабудове Амурскай чыгункі і другой калііны Сібірскай». У царскай Расіі, аднак, гэта выканаць не змаглі.

Пасля 1917 года разам з існуючай сістэмай месцаў зняволення на тэрыторыі Расіі і ў Беларусі пачала фармавацца сетка новых карных устаноў — лагераў прымусовых работ — або, як іх часам называлі ў афіцыйных (!) дакументах, — канцэнтрацыйных.

## Канцлагеры. Пачатак

У Наркамаце ўнутраных спраў быў створаны аддзел прымусовых работ. У красавіку 1919 года Прэзідыум УЦВК выдаў пастанову аб арганізацыі лагераў прымусовых работ, падпісаную Міхаілам Калініным, помнік якому да гэтага часу стаіць у Мінску.

Першапачаткова лагеры ствараліся ва ўсіх губернскіх гарадах у названыя асаблівай інструкцыяй тэрміны. Змяшчаць лагеры павінны былі не менш за 300 чалавек. Адказнасць за выкананне інструкцыі ўскладалася на губернскія ЧК.

У лагер змяшчаліся непрацуючыя, за выключэннем толькі «асобаў, якія пакутуюць хранічнымі хваробамі і арганічнымі недахопамі, што робяць іх зусім няздольнымі да працы». Непрацаздольнасць вызначалася кіраваннем лагера па заключэнню ўрача.

Спачатку ў адзін лагер з мужчынамі змяшчаліся жанчыны, а таксама дзеці. Пасля для кожнай «катэгорыі» былі створаныя свае лагеры.

Утрыманне лагера і адміністрацыі акуплялася працай зняволеных. Лагеры не павінны былі нічога каштаваць дзяржаве. Усе зняволеныя «неадкладна па паступленні ў лагер» прызначаліся на працы і павінны былі «займацца фізічнай працай на працягу ўсяго часу іх знаходжання там». Род работ вызначаўся адміністрацыяй. Спачатку замена фізічнай працы разумовай дапускалася толькі «для некаторых асоб з дазволу мясцовых аддзелаў кіравання». Зняволеныя працавалі 8 гадзін на дзень, дапускаліся звышурочныя і начныя працы.

Узнагароджанне за працу кожнага зняволенага прызначалася па стаўках прафсаюзаў у дадзенай мясцовасці. Аднак працоўнаму з заробку заставалася толькі чацвёртая частка, астатняе ішло на пакрыццё расходаў лагера. За адмову ад працы зняволены караўся — характар кары і памер вызначаўся інструкцыяй і цалкам залежаў ад кіраўніцтва лагера.

## Лёгкае вырашэнне кадравага пытання

Ужо ў 1919 годзе недахоп кваліфікаваных служачых у савецкіх установах стаў досыць адчувальным. 17 снежня Малы СНК пад кіраўніцтвам Уладзіміра Леніна прыняў дэкрэт «Аб парадку накіравання зняволеных на працы ў савецкія ўстановы». Згодна з ім, спецыялістаў, якія адбывалі пакаранне ў лагерах, днём прывозілі працаваць ва ўстановы, а ночыць вярталі ў лагер. Дэкрэт адкрываў новыя гарызонты — з дапамогай прымусовай працы можна было вырашаць любыя эканамічныя праблемы дзяржавы. Стваральнікі дакумента ўсведамлялі непапулярнасць прынцыпова новай магчымасці выкарыстання працы савецкіх людзей, і таму аднагалосна вырашылі дэкрэт публічна «не друкаваць».

**Утрыманне лагера акуплялася працай зняволеных. Лагеры не павінны былі нічога каштаваць дзяржаве. Усе зняволеныя «неадкладна па паступленні ў лагер» павінны былі «займацца фізічнай працай на працягу ўсяго часу іх знаходжання там»**

З заканчэннем НЭПу ў Папраўча-працоўны кодэкс БССР, прыняты ў 1926 годзе, былі ўнесеныя змены і дапаўненні, якія больш дакладна рэгламентавалі парадак адбыцця пакарання. Асуджаныя да прымусовай працы на тэрмін да 6 месяцаў адбывалі пакаранне па месцы сваёй працы — вядома, з меншым заробкам. У 1934 годзе ППК БССР дапоўнены пунктам аб парадку адбыцця пакарання членамі сельгасарцеляў: асуджаныя да 6 месяцаў адбывалі пакаранне ў калгасах.

Структура савецкіх папраўча-працоўных устаноў БССР называлася «аддзелы месцаў зняволення» (АМЗ). Яна ўключала папраўча-працоўныя калоніі, дамы заключэння, ізалятары, бюро папраўчых работ. Тут знаходзіліся асуджаныя на тэрміны да 5 гадоў. Асуджаныя да пазбаўлення волі больш чым на 5 гадоў накіроўваліся ў папраўча-працоўныя лагеры за межы БССР — на стратэгічна важныя будоўлі СССР.

## На службе ў ГУЛАГу

На пачатку 1935 года АДПУ ўвайшло ў сістэму Наркамата ўнутраных спраў, у якую ўключылі і Дзяржаўнае ўпраўленне лагераў і месцаў зняволення — знакаміты ГУЛАГ. Разам з месцамі зняволення пад кантроль НКУС перадаваліся і курыруемыя імі вытворчыя аб'екты — ад найбуйнейшых будоўляў (БАМ, канал Масква — Волга) да дробных сельгаспрадпрыемстваў пры калоніях. НКУС, такім чынам, стаў буйным гаспадарчым наркаматам.

АМЗ БССР з'яўляліся тэрытарыяльнымі органамі Дзяржаўнага кіравання ўсімі месцамі зняволення СССР. Яны займаліся ў асноўным сельгаспадарчымі работамі і выпускам тавараў шырспажыву, большым часткай для лагерных патрэб. Асноўнай працай для зняволеных, якія знаходзіліся ў Беларусі, з'яўляліся «контрагенцкія працы» па замовах розных наркаматаў і ведамстваў, саветаў усіх узроўняў, партыйных органаў. Зняволеныя, напрыклад, працавалі на Віцебскім цагляным заводзе, на торфараспрацоўцы, на будаўніцтве дарог і будынкаў.

Найбольш поўныя звесткі пра колькасць людзей, занятых прымусовай працай у БССР, утрымліваюцца ў Дзяржаўным архіве ФСБ Расіі. Цяпер яны маладаступныя для беларускіх даследчыкаў. Дадзеныя, якія захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі, Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, урывачныя.

Я знайшла звесткі, напрыклад, што ў лютым 1933 года ў БССР (у Віцебску, Магілёве, Гомелі, Оршы, Бабруйску, Полацку, Слуцку і Мінску) змяшчалася каля 23,5 тысячы зняволеных. Пры гэтым «планавая» колькасць месцаў складала 6293. Зняволеныя «звыш ліміту» накіроўваліся ў распараджэнне Масквы, на будоўлі ГУЛАГу.

У дакладной запісцы НК юстыцыі БССР, накіраванай у ЦК КП(б)Б 11 лютага 1933 года, паказвалася: «Па лініі АДПУ БССР атрымана 3 нарады на 6300 асобаў для адпраўкі ў канцлагеры, з якіх першая партыя ў 1300 асоб падрыхтаваная і будзе адпраўленая 15.02, а другая партыя ў 3000 асоб падрыхтаваная да адпраўкі да 20.02. Трэцяя партыя ў 2000 асобаў будзе таксама адпраўленая прыблізна каля 25.02».

У архіве КДБ маюцца няпоўныя дадзеныя аб накіраваных у ГУЛАГ. У 1936 годзе ў тэлеграме ў Маскву наркам БССР Ляплеўскі пісаў: «ГУЛАГам дадзены нарад на 1000 чалавек для Бамлага тэрмінам адпраўкі 22 красавіка. У сувязі з вашай тэлеграмай прымаю ўсе неабходныя захады, каб адпраўку 1000 чалавек скончыць не пазней за 10 красавіка». У маі 1936 года была накіраваная чарговая тэлеграма, у якой паказвалася, што рэспубліка на май 1936 года атрымала нарад ГУЛАГу на 700 чалавек. На чэрвень нарад — таксама на 700 чалавек.

У БССР тэрытарыяльнае ўпраўленне ГУЛАГу было адкрытае ў 1934 годзе ў Мінску на базе УЖ-15 і праіснавала да 1960 года. Па дадзеных НКУС БССР, накіраваных у Маскву 20 красавіка 1935 года, фактычная колькасць зняволеных у сістэме НКУС БССР складала: у «закрытых» месцах зняволення — 8331 чалавек, у калоніях — 3930 чалавек. Колькасць зняволеных беларусаў, якія працавалі ў БССР у 1937 годзе — 10 994 чалавекі, у 1939-м — 5147 чалавек, у 1941-м — 8544 чалавекі.

## Прамысловасць рукамі зняволеных

Выкарыстанне прымусовай працы для вырашэння пытанняў эканомікі было нераўнамерна размеркаванае па тэрыторыі СССР. Грунтуючыся на праграме 1929 года, звязанай з каланізацыяй раёнаў Далёкага Усходу з дапамогай зняволеных, лагеры будаваліся ў асноўным там і на Поўначы. У цэнтральных раёнах Саюза лагеры ствараліся толькі для абслугоўвання пэўных аб'ектаў і зачыняліся, калі патрэба ў гэтым абслугоўванні знікала.

У БССР будоўляў, якія б стала патрабавалі вялікую колькасць працоўных, у другой палове 1930-х гадоў не было, таму тут і спецыяльных лагераў не стварылі.

За гады другой пяцігодкі ўступілі ў дзеянне буйныя прадпрыемствы: Аршанскі льнокамбінат, Крычаўскі цэментны, Гомельскі шкляны, Быхаўскі ацэтонавы, Магілёўскі трубалітейнага, Бабруйскі гідролізны заводы, Гомельскі тлушчавы

# рухавік сталінскай эканомікі

камбінат, была ажыццёўлена рэканструкцыя 80 іншых буйных прадпрыемстваў рэспублікі. На гэтых будоўлях выкарыстоўваліся, у асноўным, зняволеныя, якія атрымалі тэрмін да 5 гадоў.

Аднак беларускія прадпрыемствы стратэгічнага прызначэння пры неабходнасці маглі атрымаць пэўную колькасць рабочай сілы па нарадах ГУЛАГу. Так, у маі 1936 года па распараджэнні кіраўніцтва ГУЛАГу Віцебскаму цагельнаму заводу было накіравана 165 чалавек.

На тэрыторыі БССР былі і асобныя аб'екты, якія ўваходзілі ў сістэму ГУЛАГу. У 1938 годзе ў 54 гарадах СССР знаходзіліся мэблевыя прадпрыемствы ГУЛАГу, у тым ліку ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску. Як правіла, гэтыя прадпрыемствы, як і іншыя, выпускалі тавары шырокага спажывання і знаходзіліся ў калоніях. Якасць прадукцыі, зразумела, не была высокай.

## Пастаўшчык працоўнай сілы

У другой палове 1930-х гадоў БССР з'яўлялася адным з актыўных пастаўшчыкоў працоўнага «кантынгенту» ГУЛАГу для будоўляў на тэрыторыі Расіі. Дадзеныя аб вывезеных з БССР людзях недакладныя і ўрывачныя. Па дадзеных архіва КДБ Беларусі, толькі ў 1935 годзе з БССР (Дакладная запіска «Пра вынікі барацьбы з крымінальнай злачыннасцю за 1935 год»), «канфіскавана крымінальна-дэкласаванага і сацыяльна-шкоднага элемента — 18 653 чалавекі».

Акрамя гэтага ажыццяўлялася высяленне з памежнай паласы. Выслана было 2000 сем'яў — 9877 чалавек. Высланыя былі накіраваныя ў Паўночны край (1400 сем'яў) і ў Паўночны Казахстан (600 сем'яў).

У 1936 годзе, згодна з дакладной запіскай «Аб выніках барацьбы з крымінальнай злачыннасцю за 1936 год», асудзілі 19 977 чалавек. Былі высланыя 1779 сем'яў з памежных абласцей. У 1937 годзе (да 20 кастрычніка) па дадзеных НКУС пры ачыстцы памежнай паласы было рэпрэсавана: па 1 катэгорыі — 1210 сем'яў (4483 чалавекі, з якіх 2498 былі дзецьмі да 15 гадоў) і па другой катэгорыі — 2066 сем'яў (7623 чалавек, з іх 4212 чалавек — дзеці). Вядома, што расстралялі 1210 чалавек, астатнія былі адпраўленыя ў лагеры.

У 1937–1938 гадах праводзіліся аперацыі па ізаляцыі антысавецкіх элементаў, выяўленых «па нацыянальнай прыкмеце». Па трох аперацыях — польскай, латышскай і нямецкай — у БССР з верасня 1937 года па снежань 1938 года былі асуджаныя, адпаведна, па польскай — 20 940 чалавек, па нямецкай — 1459 чалавек, па латышскай — 563 чалавекі. Па «польскай аперацыі» расстралялі 14 034 чалавекі, па астатніх — больш за 1500 чалавек. Такім чынам, у лагеры было адпраўлена каля 7,5 тысячы чалавек. Акрамя таго, з памежнай паласы выслалі ў тэты год яшчэ 3100 чалавек.

З 1939 года да мая 1941-га ў Заходняй Беларусі былі праведзеныя аперацыі па «ізаляцыі» «леснікоў» і «асаднікаў». За гэты перыяд былі асуджаныя 56 320 чалавек (расстраляныя з іх 3903 чалавекі), высланыя — 101 726 чалавек плюс 1 эшалон (каля 800 чалавек).

## Дзе працавалі беларусы?

Па нарадах ГУЛАГу зняволеныя з БССР з 1936 года накіроўваліся ў лагеры: Дмітлаг, Бамлаг, Дальлаг, Свірлаг, Белбалтлаг, Севвостлаг, Ухтпечлаг, Карлаг, Волгалаг, Цемлаг, Прорвлаг, АМЗ (аддзелы месцаў зняволення) Карагандзінскага абласнога ўпраўлення Паўночнага краю, Узбекскай АССР і іншыя.

Згодна з даведнікам «Сістэма папраўча-працоўных лагераў у СССР», у Дзмітраўскім ППЛ зняволеныя з БССР працавалі на будаўніцтве каналаў Масква—Волга, рэканструкцыі ракі Яўза і Істынскай плаціны, Цэнтральнага аэрадрома імя Фрунзе ў Маскве, на будаўніцтве Сталінскай вадапомпавай станцыі, лесанарыхтоўках, торфараспрацоўцы.

У Бамлаге ажыццяўлялася будаўніцтва БАМа на ўчастках Тында — Камсамольск, грамадзянскае будаўніцтва па трасе БАМа, падрыхтоўчыя і праектна-шукальныя работы на ўчастках Тахтамыгда — Тында, Вапнавы — Ургал, Ургал — Камсамольск, Тайшэт — Падун, Тында — Зея, Камсамольск — Саўгавань.

У Дальлагу (Хабараўск) рабіліся лесанарыхтоўкі, здабыча золата на востраве Аскольд, здабыча каменнага вугалю на рудніках «Арцём» і «Райчыха», дарожнае будаўніцтва, у тым ліку чыгуначных ліній Біράбіджан — Блюхерава і Валачаеўка — Камсамольск, лоўля і перапрацоўка рыбы, вырошчвалася сельгаспрадукцыя, збудаванні на рацэ Сяданка для водазабеспячэння Уладзівастока, вяліся работы па паглыбленні ракі Амур, будаваліся цэментавыя і цагляны заводы каля Хабараўска і Уладзівастока, грузілі вагоны на Усурыйскай чыгунцы, будавалі «спецкропкі Наркамсувязі».

## Дасягненні зэкаў

У сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны з 15 мая па 6 лістапада 1941 года ў падпарадкаванні аддзела папраўча-працоўных калоній НКУС БССР знаходзіўся Белакаровіцкі лагер, які дыслакаваўся ў Жытомірскай вобласці Украінскай ССР. Галоўнай задачай лагера была распрацоўка трох каменных кар'ераў, а з пачаткам ваенных дзеянняў — капанне процітанкавых равоў, акопаў. Камяні здабываліся таксама для будаўніцтва аэрадромаў на тэрыторыі БССР.

27 сакавіка 1941 года было арганізаванае Галоўнае ўпраўленне аэрадромнага будаўніцтва НКУС СССР. У складзе НКУС саюзных рэспублік былі створаныя ўпраўленні або групы аэрадромнага будаўніцтва — УАСы. Начальнікамі УАСаў сталі кіраўнікі НКУС рэспублік, якія адначасова з'яўляліся ўпаўнаважанымі на месцах па будаўніцтве аэрадромаў. Да 15 чэрвеня 1941 года ў СССР было пачата будаўніцтва 254 аэрадромаў, з іх у БССР — 61. 156 будоўляў абслугоўвалі зняволеныя, прысуджаныя да папраўча-працоўных работ без утрымання пад вартай (51920 чалавек), да папраўча-працоўных калоніяў (199674 чалавекі) і лагераў (44490 чалавек). Пастановай ЦВК і СНК СССР ад 3 сакавіка 1936 года акрамя зняволеных на будоўлі дазвалялася прыцягваць сельскае насельніцтва «на ўмовах непасрэднай бясплатнай асабістай працы» на працягу шасці дзён у годзе вясной і восенню.

Асаблівае значэнне для эканомікі Беларусі мела дзейнасць НКУС па будаўніцтву дарог — стратэгічных і мясцовых. Пастановай ЦВК і СНК СССР ад 28 кастрычніка 1935 года ў падпарадкаванне НКУС СССР было перададзенае Цэнтральнае ўпраўленне шашэйных і грунтовых дарог і аўтамабільнага транспарту, якое займалася будаўніцтвам, рамонтам і эксплуатацыяй дарог краіны. У студзені 1936 года паступіў загад зняць з аб'ектаў усіх вольнанаёмных, а для работ выкарыстоўваць людзей з адмыслова створаных для кожнага аб'екта калоній у сістэме тэрытарыяльных АМЗ. Галоўнымі былі названыя найбуйнейшыя аўтадарожныя будоўлі: шашы Масква — Мінск і Масква — Кіеў. Для абслугоўвання гэтых будоўляў у сістэме ГУЛАГу былі арганізаваныя лагеры — Вяземскі і Калужскі.

Будаўніцтва 695-кіламетровай шашы Масква — Мінск ажыццяўлялася зняволенымі Вяземскага ППЛ — лагер размяшчаўся ў Вязьме Смаленскай вобласці. Колькасць зняволеных пастаянна змянялася — ад 12 тысяч да 50 тысяч чалавек.

Будаўніцтва дарог стратэгічнага значэння курыравалася асабіста наркамамі, як саюзнымі, так і рэспубліканскімі. 26 чэрвеня 1936 года наркам унутраных спраў БССР Ізраіль Ляплеўскі дакладаў наркаму ўнутраных спраў СССР Рыгору Ягодзе аб праведзеным з 15 па 25 чэрвеня «дэкадніку па будаўніцтву дарог мясцовага і стратэгічнага значэння»: «Цяпер асабліва націскаем на заканчэнне будаўніцтва мастоў, на вывазку жвіру, на зборку мясцовага каменя. Націскаем, каб тэмпы работ па будаўніцтву стратэгічных дарог, узятыя ў стаханаўскай дэкадзе, захаваць на дасягнутым узроўні». Усяго да гэтага часу было зроблена 896 кіламетраў мясцовых дарог (планавалася зрабіць 751 кіламетр), пабудавана 6714 пагонных метраў новых мастоў, план азелянення выкананы на 140,9%.

Будаўніцтва шашы Масква — Мінск да пачатку вайны не было завершанае. Вясной 1941 года па рашэнні СНК будаўніцтва 200 кіламетраў, якія засталіся, было перанесенае на восень 1942 года. У лютым 1941 года работы былі спыненыя, зняволеныя перакінутыя на будаўніцтва аэрадромаў. Дарогі, пабудаваныя зняволенымі, засталіся да сёння. У іх ёсць адна адметная рыса: месцы, дзе пастаянна здараюцца аварыі. Старыя людзі казалі, што ў гэтых месцах закапаныя тыя, хто памёр падчас будоўлі і быў закапаны ў траншэях.

Можна доўга пералічваць аб'екты, дзе выкарыстоўвалася прымусовая праца беларускіх людзей. Для гэтага не хопіць месца не толькі ў артыкуле.

**Усяго праз ГУЛАГ да сакавіка 1940 года прайшло амаль 8 мільёнаў чалавек — столькі картак змяшчалася ў цэнтральнай картатэцы ГУЛАГу. «Паўнавартаснай рабочай сілай» былі 75–80% зняволеных**



Жаночая будаўнічая брыгада. Белбалтлаг, 1932 год

## ГУЛАГ як рухавік эканамічнага цуду

У сакавіку 1940 года Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў і калоній НКУС СССР падрыхтавала справаздачу, у якой былі падведзеныя вынікі дзейнасці ГУЛАГу. Дакумент быў складзены для ўнутранага карыстання і меў грыф «Цалкам сакрэтна». Ён вялікі па аб'ёме, займае 183 аркушы, забяспечаны рознымі табліцамі, з'яўляецца найбольш поўнай комплекснай характарыстыкай ГУЛАГу і яго дасягненняў.

Усяго праз ГУЛАГ да сакавіка 1940 года прайшло амаль 8 мільёнаў чалавек — такая колькасць картак змяшчалася ў цэнтральнай картатэцы ГУЛАГу. З іх 36 тысяч з'яўляліся «спецыялістамі» — інжынерамі, тэхнікамі, лекарамі, планавікамі, эканамістамі... «Паўнавартаснай рабочай сілай» (так напісана ў справаздачы) з'яўлялася 75–80% кантынгенту зняволеных.

Праз 162 прыёмнікі-размеркавальнікі ГУЛАГу прайшло 952834 падлеткі. Ва ўсіх 50 дзіцячых калоніях былі арганізаваныя прадпрыемствы, якія займаліся металаапрацоўкай, дрэваапрацоўкай, абутковай вытворчасцю і трыкатажнай вытворчасцю.

Да пачатку 1940 года гаспадарчая дзейнасць ГУЛАГу ахоплівала прамысловасць, сельскую гаспадарку і будаўніцтва найбуйнейшых індустрыяльных комплексаў. Прамысловасць ГУЛАГу мела 17 галін. Напярэдадні вайны доля прадпрыемстваў НКУС у агульным аб'ёме народнай гаспадаркі СССР складала: па вытворчасці нікелю — 46,5%, кобальту — 40%, хромавай руды — 40,5%, лесаматэрыялаў — 25,3%. Аб'ём лагернай вытворчасці каляровых металаў складаў 40% ад аб'ёму прадукцыі, што выпускалася прадпрыемствамі галіны. Вугальныя басейны НКУС далі краіне ў 1940 годзе 4,3 млн. тон вугалю. У склад Ухцінскага камбіната НКУС уваходзіла прадпрыемства па вытворчасці радыю — адзінае ў СССР. 83 цагляных заводы НКУС штогод выраблялі 206 млн. штук цэглы, на фабрыках рабілі абутак, трыкатаж, алюмініевы посуд, мэблю, скабяныя вырабы, конскую збрую. 11% капітальных укладанняў СССР асвойвалася НКУС.

Як правіла, выселеныя за межы БССР у Беларусь ужо не вярталіся. Тыя, хто выжыў, засталіся ў Расіі. БССР яшчэ да Другой сусветнай вайны панесла вялікую страту працоўных рэсурсаў. Крэдыты, якія атрымлівала Беларусь ад Расіі ў першыя дзесяцігоддзі XXI стагоддзя — далёка не поўная плата за прымусовы ўнёсак беларусаў у развіццё расійскай эканомікі.

# Юрый Шаўчук: «Маё Ватэрлоа яшчэ наперадзе»

Сяргей ШАПРАН

**Юрый Шаўчук вельмі ахвотна гаворыць пра новую праграму «Гісторыя гуку», з якой «ДДТ» ужо былі ў Віцебску і Гомелі, а 15-га — у Мінску.**

«ДДТ» (у гурта ўжо колькі гадоў новы, маладзевы склад, таму Шаўчук жартам называе сябе «Кашчэем Несмяротным») з восені працуе над новым альбомам, але, каб не патануць канчаткова ў матэрыяле (у некаторых песень ужо па дзве-тры мелодыі), вырашылі зрабіць невялічкі перапынак і выправіліся ў гастрольны тур — «праветрыцца».

«Новая праграма — яна вось тут», — Шаўчук дастае з сумкі вялікі сшытак, дзе ўсе запісы ад рукі. З падобных запісаў і пачынаецца звычайна любая праграма «ДДТ». Часам здаецца, што варта было б яшчэ папрацаваць над тэкстамі, над рыфмай, але калі доўга сядзіш над песняй, кажа Шаўчук, яе можна настолькі выпустошыць, што нерв, інтанацыя згубяцца. Дый песні павінны з'яўляцца своечасова, у адпаведнасці з момантам, што цяпер на двары...


Фота newsgomel.by

Мы гутарым без дыктафона. Пра будучы альбом, пра канцэрт, пра Васіля Быкава (калісьці Шаўчук прысвяціў яго памяці «Пластуна»: «Мне страна ворковала о сыновней любви, вытирая платочком сухие глаза...»), пра Веніяміна Блажэннага (якога вылучалі Барыс Пастарнак і Арсеній Таркоўскі; дзякуючы Шаўчуку ў 1995 годзе выйшла кніга паэта «Сораспятье» і быў зняты дакументальны фільм), пра інтэрнэт і яго наведвальнікаў і ў звязку з гэтым — пра Міхаіла Задорнава і тую рэакцыю ў сеціве, што выклікала яго смерць...

Я люблю слухаць Шаўчука. Шкада толькі, што ўсё гэта сам-насам. Таму прашу дазволу ўключыць дыктафон хоць на пару пытанняў, што нібыта пэўны вынік падводзяць неўтаймаванага жыцця лідара «ДДТ», які гэтай вясной адзначыў свой юбілей.

***— Узгадаў запіс расійскага крытыка Уладзіміра Огнева: «Пэўны час казалі, што Напалеона атруцілі мыш'яком англічане. Нядаўна высветлілі: атручвання не было, памёр смерцю натуральнай — рак страўніка. Прыгадваецца Герцэн: Напалеону сказалі, што ў яго рак унутры. Ён запярэчыў: "У мяне ўнутры Ватэрлоа". Ад чаго мы паміраем? Вядома, Напалеон мае рацыю. Толькі Ватэрлоа ў кожнага сваё». У чым твая галоўная бітва, і яна ж адначасова параза?***

— Параза?.. Я думаю, мая параза яшчэ наперадзе. *(Смяецца.)* Маё Ватэрлоа яшчэ наперадзе, хачу спадзявацца... *(Пасля паўзы задуменна.)* Але гэта вельмі прыгожа — перажыць такі татальны, касмічны па маштабах разгром. Аднак не думаю, што мой арганізм ці я асабіста, мая падсвядомасць хацелі б гэта прайсці. Хоць, зрэшты, гэта вельмі цікава — перажыць падобную паразу. Але, бачыш, найперш пры гэтым пацерпяць блізкія, што побач з табой, а гэтага не хацелася б. Дый мы ж не напалеоны! Я ніколі не буду генералам, бо не змагу адправіць чалавека на смерць. Лепш сам пайду і загіну, але адправіць некага не гатовы. Я шмат пра гэта разважаў у «гарачых кропках»... Таксама я буду не здольны адправіць на смерць блізкіх мне людзей толькі дзеля таго, каб выпрабаваць гэтую самую паразу, пра якую ты кажаш...

Вось так мудрагеліста адкажу табе.

***— Выдатныя беларускія пісьменнікі-сябры Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў некалі задаліся пытаннем: а ці хацелі б яшчэ раз пражыць гэтае жыццё. І абодва пагадзіліся, што ўсё ж не, бо былі не ўпэўненыя: а ці здолеюць зноў выстаяць, ці здолеюць супрацьстаяць знешнім абставінам?***

— Яны — пераможцы. Яны ўзялі жыццё ў кулак і зраталі гэтае сваё ўласнае жыццё. І, канешне, яны выстаялі. Іх смерць толькі пацвердзіла гэта. І я тут назваў бы яшчэ аднаго пісьменніка-сібірака — Віктара Астаф'ева. Усе яны разам — гэта проста тры такія глыбы...

А ўвогуле, нават не ведаю, як адказаць на тваё пытанне... Тут жа ў дадатак працуюць яшчэ генафонд і твая фізіка — якім цябе мама з татам нарадзілі: моцным характарам ці нясмелым?.. Калі ўявіць, што ты пачаў сваё жыццё з «бессознанки», немаўлём, які пускае пухіры, ты ўсё адно пражыў бы гэтае жыццё — нават у нейкіх іншых абставінах — прыкладна гэтаксама. І ўсе сілы тваёй душы, і ўсе слабасці спрацавалі б на адказ тваймў жыццю, на ягонае рэзюмэ. Я чамусьці перакананы, што ў прынцыпе жыццё ўсё роўна было б такім жа самым — з прычыны ўсіх характарыстык, якія дадзены табе бацькамі і Богам. Таму які сэнс яшчэ раз яго пражываць і рабіць тыя ж самыя памылкі?.. Праўда, калі б я нарадзіўся ў Англіі і вучыўся ў Кембрыджы ці Оксфардзе, мабыць, разумнейшы быў бы. Хоць наўрад ці... *(Смяецца.)*

Я, шчыра кажучы, мала пра гэта думаў, але мяркую, што так яно і ёсць. І нават не істотна, дзе ты нарадзіўся, але вось гэтыя «тэхнічныя» і душэўныя характарыстыкі — яны, паўтаруся, спрацавалі б зноў. І ўсе твае ўзлёты і падзенні былі б прыкладна такімі ж самымі. Бо не ўсё ад цябе залежыць. Недзе ўсё адно ты даў бы «слабіну», недзе стаміўся б, а недзе, наадварот, падняўся б над самім сабой.

***— Сапраўды, чалавек па сутнасці сваёй мала мяняецца за жыццё. Той жа Огнеў гаварыў, што як у маленстве крыўдзіўся, так і ў сталым веку...***

— Канешне! Проста ў семдзясят гадоў розум больш-менш трымае твой тэмперамент у цуглях. Але ўсё роўна куды тэмперамент падзецца? — з якім ужо характарам нарадзіла цябе мамка з таткам, з такім і пайшоў-паскакаў. Ну, ці папоўз. Бо што было, тое, па сутнасці, і будзе. Дый жыццё наша складваецца не з адных матэрыяльных каштоўнасцяў, а з таго найперш, з чым, з якім пачуццём будзеш паміраць: ты, безумоўна, будзеш узгадваць не тое, што зарабіў, а тое, як жыў. Гэта і важна.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №1095

Падпісана да друку 17.11.2017. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.